*Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі*

# ЛіМ

*Літаратура і мастацтва*

ISSN 0024-4686

№ 23 (4874) 10 чэрвеня 2016 г.



# Фестывальная геаграфія

**Невялікія прыгожыя будынкі, шырокія аркі, аздобленыя кветкамі балконы, гарачае чэрвеньскае сонца... Утульныя двары ў гістарычнай частцы Гродна дазволілі апынуцца ў Грузіі, Азербайджане, Венесуэле ды іншых не менш спякотных краінах.**




*Адкрыццё XI Рэспубліканскага фестывалю нацыянальных культур.*

Грэкі мяжуюць з чувашамі, немцы — на поўдзень ад венесуэльцаў, армяне апынаюцца праз дарогу ад нігерыйцаў — фестываль нацыянальных культур змяняе не толькі аблічча старажытнага Гродна, але і палітычную геаграфію планеты. Зрэшты, калі жывеш у сталіцы ці іншым вялікім беларускім горадзе, паверыць у гэту дзіўную геаграфію вельмі лёгка. Праз некалькі дамоў наймае кватэру сям'я хлопчыка-в'етнамца — аднакласніка твайго сына, насупраць крамы жывуць грузіны, якія пякуць і прадаюць лавашы. Дзяўчынка спыняецца паразмаўляць пра сабаку і згадвае свой дом ва Украіне... Сёння ў Беларусі жывуць прадстаўнікі 140 нацыянальных меншасцей, якія складаюць 16% насельніцтва нашай краіны. Таму знаёмства з іншымі культурамі — не толькі займальная справа, але і магчымасць лепш зразумець тых, хто жыве, працуе і вучыцца побач з намі.



*Фота Анатоля Клешчука.*

*Традыцыя фестывалю — нацыянальныя падворкі.*

Здараецца, што, каб здзівіцца адметнасцям культуры розных народаў, не трэба афармляць візу і набываць даражэзны білет. XI Рэспубліканскі фестываль нацыянальных культур стаў калейдаскопам танцаў, спеваў, народных традыцый і, вядома, выдатным святам для жыхароў і гасцей старажытнага Гродна. Сімвал фестывалю — белы бусел на крыштальным пастаменце — быў уручаны 43 старшыням дыяспар, а праграма свята налічвала больш за 800 удзельнікаў.

Сёлета фестываль нацыянальных культур упершыню прайшоў пад эгідай ЮНЕСКА. Прадстаўнікі аўтарытэтнай міжнароднай арганізацыі звярнуліся да ўдзельнікаў і гасцей свята з пажаданнямі атрымаць асалоду ад сумеснай творчай дзейнасці, узбагаціць веды пра культуру, спрыяць пашырэнню міжнацыянальнай камунікацыі.

Падчас фестывалю найбольш шырока была прадстаўлена народная культура розных краін, а таксама сучасная музычная культура Беларусі.

**Працяг на стар. 3 ▶**

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка ўдастоіў дзяржаўных узнагарод прадстаўнікоў розных сфер дзейнасці за шматгадовую плённую работу, узорнае выкананне службовых абавязкаў, актыўную дзяржаўную і грамадскую дзейнасць, дасягненне высокіх вытворчых паказчыкаў, значны асабісты ўклад у развіццё заканадаўства і парламентарызму, будаўнічай галіны і сельскай гаспадаркі, навуковай і педагагічнай дзейнасці, сферы мастацтва, культуры і спорту. У ліку ўзнагароджаных ордэнам Пашаны — міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч.

✔ Прэзідэнт Беларусі павіншаваў з юбілеем народную артыстку Беларусі Людмілу Бржазоўскую. «Сваёй шматгадовай творчай дзейнасцю, талентам, адданасцю беларускаму харэаграфічнаму мастацтву Вы заслужылі прызнанне калег і любоў гледачоў як на радзіме, так і за яе межамі», — падкрэсліў Кіраўнік дзяржавы. На думку Прэзідэнта, створаныя Людмілай Бржазоўскай на сцэне Вялікага тэатра яркія мастацкія вобразы сталі хрэстаматыйнымі і ўвайшлі ў гісторыю беларускага балета.

✔ На фінансаванне расходаў спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі ў 2016 годзе з рэспубліканскага бюджэту за кошт сродкаў рэзервовага фонду Прэзідэнта Беларусі выдзелена 6 млрд рублёў. Распараджэннем Кіраўніка дзяржавы зацверджана рашэнне савета фонду аб заахвочванні 130 прэтэндэнтаў. Са сродкаў фонду выдзелена і тры гранты — Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі, Гомельскаму дзяржаўнаму каледжу мастацтваў імя Н. Ф. Сакалоўскага, ЗАТ «Другі нацыянальны тэлеканал».

✔ На III Форуме рэгіёнаў Беларусі і Расіі арганізавана асобная секцыя, прысвечаная СМІ, падкрэсліла міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч, размаўляючы з журналістамі. «Новыя тэхналогіі вельмі хутка распаўсюджваюць інфармацыю. Яна можа быць як стваральнай, так і інфармацыяй, якая ўводзіць у зман, — адзначыла Лілія Ананіч. — Вельмі важна, каб інфармацыйныя патокі не толькі перасякаліся, але і аб'ядноўваліся ў магутнае рэчышча, ствараючы вобраз часу, дапамагаючы вырашаць праблемы». Паводле міністра, многае ў гэтым напрамку могуць зрабіць рэгіянальныя медыя, таму што яны бліжэй за ўсё да чалавека.

✔ Падтрымку любых сустрэчных ініцыятыў лічыць найважнейшым напрамкам дзейнасці культурных ведамстваў Беларусі і Расіі міністр культуры Беларусі Барыс Святлоў. Падчас пасяджэння секцыі III Форуму рэгіёнаў Беларусі і Расіі міністр нагадаў, што нарматыўны фундамент створаны — дзейнічае праграма супрацоўніцтва паміж міністэрствамі на 2015 — 2017 гады. Цяпер, паводле Барыса Святлова, неабходна больш актыўна развіваць сувязі як паміж рэгіёнамі, так і канкрэтнымі ўстановамі культуры.

✔ Прадстаўнікі 27 тэлекампаній з 16 рэгіёнаў Беларусі і Расіі ўзялі ўдзел у Першым фестывалі рэгіянальных тэлекампаній Беларусі і Расіі «Выява часу», які прайшоў 6 — 8 чэрвеня. Арганізатарам выступіла Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь пры падтрымцы Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, Пастаяннага камітэта Саюзнай дзяржавы, міністэрстваў, ведамстваў і ўстаноў абедзвюх краін. Праграма прадугледжвала конкурс рэгіянальных тэлепраектаў, удзел у мерапрыемствах III Форуму рэгіёнаў Беларусі і Расіі, правядзенне творчых тэлемайстэрняў.

# Абмен паміж пакаленнямі

**Рэспубліканскі флэшмоб «Буккросінг», сумесная ініцыятыва Саюза пісьменнікаў Беларусі і Беларускага рэспубліканскага саюза моладзі, стаў часткай новага праекта «Дыялог пакаленняў "Кветкі вялікай Перамогі"». Гэта мерапрыемства стартавала 3 чэрвеня, аб'яднаўшы самых актыўных маладых грамадзян краіны, парламентарыяў і навукоўцаў, палітыкаў і ветэранаў вайны, прадстаўнікоў спорту, бізнесу і культуры.**



*Флэшмоб «Буккросінг» хутка распаўсюдзіцца па ўсёй рэспубліцы.*

У сталічным парку Перамогі сабраліся 150 маладых дэлегатаў V Усебеларускага народнага сходу з усіх куткоў краіны.

У рамках «Дыялогу пакаленняў» абмяркоўвалася, што збліжае нацыю, прымушае маладых адчуваць гонар за сваю краіну, пачуццё яднання з радзімай. Кнігі — немалаважны фактар. Гэта, бадай, самая дакладная крыніца звестак у эпоху інфармацыйных «інтэрнэт-бураў», дзе меркаванні не заўсёды супадаюць з рэчаіснасцю. Парк Перамогі на адзін дзень стаў камунікацыйнай пляцоўкай для прадстаўнікоў розных узростаў і сфер грамадства.

Патрыятычны праект уключае распаўсюджванне на вуліцах сталіцы плакатаў з выявамі ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, а таксама вядомых у Беларусі людзей: ад алімпійскай чэмпіёнкі Дар'і Домрачавай, лекара-трансплантолага Алега Румо да прымы-балерыны Вялікага тэатра Ірыны Яромкінай, якімі мы павінны ганарыцца.

Старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалай Чаргінец падкрэсліў, што мерапрыемства прысвечана ў першую чаргу Вялікай Перамозе:

— Сучасная Беларусь успамінае пра мінулае і думае пра будучыню. Мы, старэйшае пакаленне, даём наказ маладым, нагадваючы пра тое, што такое радзіма і чаму трэба быць аданымі ёй душой і сэрцам, будаваць разам мірную дзяржаву.

Што датычыць буккросінгу, то хутчэй за ўсё акцыя стане пастаяннай і будзе пашыраць межы, падарожнічаючы па рэгіёнах. Асаблівы акцэнт — на творчасці беларускіх пісьменнікаў. Многія кнігі прадстаўлены СПБ, а таксама ініцыятарамі з боку БРСМ. Пераносная экспазіцыя ў выглядзе стэлажоў і стэндаў размесціцца ў парках і скверах, універсітэтах. Ужо амаль два месяцы яна карыстаецца папулярнасцю. Літаратуру прыносяць і ветэраны, і студэнты.

**Марыя ВОЙЦІК, фота аўтара**

# Ідэі дзеля памяці

## Ад студэнцкіх работ да імянных дрэваў




*Ушанаваць памяць Караля Яна Аляксандра Чапскага прапануе скульптар Павел Вайніцкі.*

**Як павялічыць колькасць арыгінальных помнікаў на тэрыторыі краіны? Звярнуць увагу на дыпломныя і курсавыя работы студэнтаў Акадэміі мастацтваў, якія часцей за ўсё бачаць скульптуру маладымі вачамі, прапанаваў рэктар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Міхаіл Баразна:**

— Студэнты розных пакаленняў Акадэміі мастацтваў на працягу 50 год займаюцца падрыхтоўкай цікавых праектаў. Шмат з іх прысвячаюць работы гістарычным падзеям і каштоўнасцям Беларусі. Маладыя аўтары выражаюць сябе нестандартна: выкарыстоўваюць складаныя матэрыялы, многа працуюць са светлавымі эфектамі. Мала хто ведае, што праекты студэнтаў нашай акадэміі ўжо былі рэалізаваны. Напрыклад, помнік Адаму Міцкевічу ў Навагрудку — студэнцкая работа.

Развіццю індустрыі помнікаў у сучасных умовах можа паспрыяць праект «Сад ідэй».

— Беларусы могуць узяць за прыклад досвед іншых краін. Напрыклад, у Бостанскім гарадскім садзе можна назіраць шмат імянных дрэваў, якія прысвечаны вядомым людзям. Там ёсць і імянныя лаўкі. Чаму мы не можам зрабіць так? Канечне, паставіць помнік — нятанна, але ж надаць пэўным дрэвам імёны знакамітых дзеячаў краіны — магчыма. Дарэчы, усё што заўгодна можа быць помнікам, нават банкамат. Бо яшчэ нядаўна ў нас не было імянных самалётаў, а сёння з'явіліся: калі займаеш месца — слухаеш, як супрацоўнікі экіпажа расказваюць пра асобу, імя якой носіць самалёт, — такімі думкамі падзяліўся адзін з удзельнікаў «круглага стала» ў газеце «Камсамольская праўда ў Беларусі» пісьменнік, журналіст Міхаіл Валодзін.

Прапанова аб наданні імёнаў дрэвам у шматлюдных месцах можа стаць рэальнай для дзяржавы, бо гэта зручна ў сучасным фінансавым становішчы і сапраўды цікава для беларускіх гарадоў і рэгіёнаў. Але ж да сённяшняга дня ў краіне застаюцца нявырашаныя пытанні: адсутнічаюць помнікі многім знакавым асобам, напрыклад, Уладзіміру Караткевічу альбо Васілю Быкаву. У гэтым выпадку намеснік дырэктара Нацыянальнага архіва Беларусі Дзяніс Лісейчыкаў і скульптар Павел Вайніцкі прапанавалі падрыхтоўку менавіта канцэптуальнай скульптуры, якая зможа вырашыць сітуацыю. На думку Дзяніса Лісейчыкава, у спіс канцэптуальнай скульптуры павінны ўвайсці помнікі не толькі знакамітым дзеячам, але і знакавым гістарычным падзеям.

**Вікторыя АСКЕРА**

# Да нас — Эль Грэка, да іх — Скарына

Творы іспанскага мастака Эль Грэка плануюць прадставіць у Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь да канца 2016 года.

Дамоўленасці аб сумесных выставачных праектах дасягнулі пасол Беларусі ў Францыі і Іспаніі (па сумяшчальніцтве) Павел Латушка і дырэктар музея Эль-Грэка ў г. Таледа Хуан Антоніа Гарсіа Кастра.

На пачатку чэрвеня спадар пасол таксама наведаў дырэктара Каралеўскай акадэміі выяўленчага мастацтва Сан-Фернанда (г. Мадрыд) Фернанда дэ Тэрана. Ён, у сваю чаргу, выказаў удзячнасць за надзвычай высокі ўзровень арганізацыі выстаўкі твораў Гоі і Пікаса ў Мінску. Новыя сумесныя праекты не прымусяць сябе чакаць. Хутчэй за ўсё, у 2017 годзе ў Акадэміі Сан-Фернанда пройдуць мерапрыемствы, прысвечаныя 500-годдзю беларускага кнігадрукавання, якое будзе святкавацца ў межах ЮНЕСКА. Чакаецца, што ў Іспаніі выступяць студэнты нашай Акадэміі музыкі.

**Марыя ВОЙЦІК**

# Галерэя ці аранжарэя?

## На мастацкай выстаўцы сям'і Курашовых

Букеты на сценах, букеты ў руках гасцей — гэта выстаўка творчай сям'і з Гомеля ў Светлагорскай карцінннай галерэі «Традыцыя» імя Германа Пранішнікава. Тут прадстаўлена больш за 30 акварэляў Святланы Курашовай, 10 работ у змешанай тэхніцы Генадзя Курашова і 17 жывапісных работ іх сына Алега Курашова. Аб'ядноўвае ўсе гэтыя творы агульная пранізлівая прыгажосць кветкавых кампазіцый.

Святлана Курашова — выпускніца мастацка-графічнага факультэта Віцебскага педагагічнага інстытута, член Саюза мастакоў Беларусі, займаецца рознымі жанрамі выяўленчага мастацтва, але нацюрморт і станковую кампазіцыю любіць больш за іншыя. Усё жыццё вывучае нюансы капрызнай акварэлі. Частка яе работ зроблена хутка і весела — прыёмам а-ля-прыма, частка — у тэхніцы лесіроўкі. А ёсць і ўласная тэхналогія, навеяная хрысціянскімі фрэскамі, якія перажылі шмат стагоддзяў. Генадзь Курашоў заўсёды быў блізкі да мастацтва, а сустрэча з будучай жонкай Святланай прывяла да захаплення жывапісам, эксперыментам у змешаных тэхніках. Алег Курашоў таксама піша нацюрморты з кветкамі, але ўжо алеем. Раней сваю выстаўку яны прадставілі ў Гомелі.

**Алена ПАРФІЯНОВІЧ**

Заканчэнне. Пачатак на стар. 1.

# Фестывальная геаграфія

Тры канцэртныя пляцоўкі, дваццаць нацыянальных падворкаў, «Гродзенскі арбат» і кірмаш народных майстроў — XI Рэспубліканскі фестываль нацыянальных культур атрымаўся каларытным і шчодрым на цікавыя сустрэчы. Свята адкрылася тэатралізаваным шэсцем прадстаўнікоў дыяспар. Гледачы з асаблівым захапленнем віталі «суседзяў па сусвеце», а таксама шматлікія дэлегацыі — грузін, татараў, малдаван, цыган...

Галоўнай дзеяй двухдзённага фэсту сталі выступленні лаўрэатаў фестывалю. Па словах старшыні журы Міхаіла Дрынеўскага, мастацкага кіраўніка і галоўнага дырыжора Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору імя Г. Цітовіча, у папярэдніх праглядах удзельнічала каля 1500 творчых калектываў. Толькі палова з іх трапілі ў Гродна на заключны этап. Украінскі фальклорны ансамбль «Ватра», народны рускі хор імя А. Нікіцінай, армянскі фальклорны ансамбль «Эрэбуні»... — удзельнікамі фестывалю сталі творчыя калектывы нацыянальных культурных аб'яднанняў, да якіх далучыліся і іншыя выступоўцы. Напрыклад, вабны танец фламенка на іспанскім падворку прадставіла мінская школа «Магія танца», якая трэці раз удзельнічае ў фэсце. У школе часта праходзяць майстар-класы іспанскіх танцораў, а навучэнцы захапляюцца іспанскай культурай і аддаюць перавагу адпачынку ў сонечным каралеўстве. Рытмы фламенка дазволілі ўявіць жыццярадасную і яркую краіну.

Музыка на любы густ гучала на ўсіх цэнтральных вуліцах Гродна. На свята прыехалі і папулярныя беларускія выканаўцы — Анатоль Ярмоленка, ансамбль «Сябры», вакальная група «Чысты голас». Годнай альтэрнатывай народным песням і танцам стаў канцэрт заслужанага калектыву Рэспублікі Беларусь Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра Беларусі пад кіраўніцтвам народнага артыста Беларусі Міхаіла Фінберга.

Падчас канцэрта ладзіўся кірмаш, дзе можна было набыць прыемны напамін пра свята. Шапікі з вырабамі аўтарскай работы занялі некалькі вуліц Гродна. Позірк затрымліваўся на вялізных керамічных збанах і вазах, какетлівых вязаных каптурках, упрыгажэннях з лёну, выробленых у адмысловых тэхніках. Здаецца, у продажы было прадстаўлена няшмат цікавостак з іншых краін — але вырабы са скуры, ваўнянае адзенне, славянская абярэжная вышыўка, безумоўна, актуальныя для розных народаў.

Каля беларускага падворка ладзілася выстаўка народных промыслаў і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва беларускіх майстроў. Побач з залатой саломкай, дэкаратыўнымі пано і вырабамі разьбяроў змясціўся куток пляцення і ткацтва, дзе можна было не толькі набыць прыгожы паясок, але і далучыцца да майстар-класаў ці задаць пытанні. Майстар Таццяна Зданевіч з горада Бяроза дэманстравала ўсе віды пляцення і ткацтва, прычым найчасцей даводзілася тлумачыць знаёмую многім з вясковага дзяцінства тэхніку пляцення «на пяці пальцах». Па словах майстра, сёння цікавасць да пляцення і ткацтва значна большая, чым дзесяцігоддзі таму: народныя рамёствы вывучаюцца, пра іх распавядаюць у кнігах — і моладзь з задавальненнем падбірае саматканыя паяскі да сучаснага адзення.

Фестываль нацыянальных культур — добры імпульс для паглыблення ведаў пра культуру розных краін. Танцы, спевы, народныя касцюмы і, вядома, нацыянальныя мовы былі прадстаўлены на галоўных пляцоўках, а вось у маляўнічых нацыянальных падворках мелася адбыцца больш дэталёвае знаёмства з гісторыяй, геаграфіяй, літаратурай і мастацтвам. Цэнтрамі прыцягнення сталі пляцоўкі Літвы, Польшчы, Расіі, Украіны, Швецыі і Ірана. На гетманскім двары кавалі манеты, літоўцы прапаноўвалі агледзець інсталяцыю традыцыйнага вясковага жытла, іранцы дэманстравалі майстэрства каліграфіі...

Віктарыны, моўныя гульні, прэзентацыі, тэатралізаваныя прадстаўленні — варыянтаў нон-стоп-праграмы можна прыдумаць безліч, але на падворках не заўсёды адбывалася нешта адмысловае. «І тут нічога няма. Заварочваем, ідзём далей», — такія рэплікі даводзілася чуць неаднойчы, тым больш што праграма мерапрыемстваў на падворках была разлічана толькі на адзін дзень. Словы аднаго з арганізатараў фестывалю, намесніка старшыні Беларускага фонду культуры Тадэуша Стружэцкага, пра невычарпальнасць рэсурсаў фэсту нібыта датычылі і гэтага пункта ў арганізацыі свята.

Задаволіць цікаўнасць гасцей можна было б пры падтрымцы турфірм, цэнтраў па вывучэнні замежных моў, дзяржаўных навучальных устаноў. Тым больш што ўвага да нацыянальных культур з цягам часу стала ўласціва многім жыхарам Гродна. Напрыклад, вучні Гродзенскай сярэдняй школы № 8 на працягу года знаёміліся з культурамі розных краін і ўзялі ўдзел у стварэнні музея Рэспубліканскага фестывалю нацыянальных культур, першасная экспазіцыя якога была прадстаўлена падчас фэсту.



Артысты перад выступленнем.



Фота Анатоля Клешчука.

Калі танец захапляе.

Яшчэ з адным невялікім расчараваннем сутыкнуліся гурманы, якія спадзяваліся пакаштаваць стравы розных нацыянальных кухняў. Адказнасць за апетыт шматтысячнага натоўпу як мінімум на 95% узялі на сябе беларускія харчовыя прадпрыемствы. Галоўнымі прывабамі на розных нацыянальных падворках быў традыцыйны беларускі квас, усходні шашлык «па-беларуску» і інтэрнацыянальнае марожанае. Зрэдку сустракаліся і адмысловыя далікатэсы (напрыклад, перац, фаршыраваны памалдаўску), але наогул у сферы кулінарны беларусы пачуваліся абсалютнымі гаспадарамі — і, адпаведна, прапанавалі багаты выбар закусак і выпечкі.

Прыемная музыка, смачныя стравы, цікавыя неспадзяванкі, прыгожыя гарадскія пейзажы — фестываль вельмі спадабаўся наведвальнікам. Удзельнікі свята таксама прыхапілі ў дарогу добрыя ўспаміны. Артысты і майстры адзначылі ўважлівае стаўленне з боку куратараў, а таксама добразычлівыя стасункі ў творчым асяроддзі. Дзяржаўныя ўстановы падтрымалі фестываль не толькі на ўзроўні арганізацыі мерапрыемстваў. Так, касцюмы і музычныя інструменты прадстаўнікоў нацыянальных культурных аб'яднанняў былі аплачаны ў тым ліку за кошт бюджэтных сродкаў.

Па словах Тадэуша Стружэцкага, «фестываль у Гродне стаў адным з самых прыгожых, дынамічных. Стварающа новыя калектывы, заяўляюць пра сябе новыя нацыянальнасці, павышаецца ўзровень выканаўцаў...». Магчымасць новых цікавых сустрэч адчувалася на працягу ўсіх фестывальных дзён. Таму многія пакідалі Гродна з марай праз два гады вярнуцца ў горад над Нёманам, каб яшчэ раз далучыцца да свята.

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

## Дайджэст

• Магіла Арыстоцеля знойдзеная на паўвостраве Халкідзікі (тэрыторыя старажытнага Стагіра, сёння — населены пункт Алімпіяда). Меркаванне пра верагоднае месца пахавання старажытнагрэчаскага філасофа выказвалася яшчэ ў 1996 годзе. Раскопкі вяліся тут цягам апошніх дваццаці гадоў. Пра знаходку навукоўцы распавялі на канферэнцыі «Арыстоцель — 2400 гадоў», якая праводзілася ў Салоніках.

• Парыжане выступілі супраць ліквідацыі старых газетных шапікаў. Французы лічаць іх культурнай каштоўнасцю і славутасцю сваёй краіны. Пад адпаведнай петыцыяй на імя гарадскіх улад подпісы паставілі ўжо больш як трыццаць тысяч парыжан. Аргументы мэра сталіцы (новыя шапікі будзе адрозніваць незвычайны камфорт) не пераканалі пратэстоўцаў. Да апошніх далучыліся спецыялісты ў галіне архітэктуры, якія азнаёміліся з узорамі новых кіёскаў. «Консервные банки» — так ахарактарызавалі яны праекты новых збудаванняў.

• «Пушкін сышоў» — так называецца новы сквер у Санкт-Пецярбургу, адкрыты ў дзень нараджэння паэта, 6 чэрвеня. Разбіты ён у раёне каля Чорнай рэчкі, дзе адбылася дуэль Пушкіна з Дантэсам. Нядаўна тут месціліся гандлёвыя кропкі, і гарадская ўлады справядліва палічылі гэта не зусім дарэчным. Галоўны акцэнт кампазіцыі зроблены на лаўцы, дзе быццам бы нядаўна сядзеў Пушкін: праз спінку акуратна перакінуты плашч, на ім — цыліндр, а побач — раскрытая кніга і пяро. Наводдаль размешчаныя ратонда і лаўкі, прызначаныя для адпачынку гараджан.

• Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Польшча ў Рэспубліцы Беларусь Конрад Паўлік абраны Ганаровым старшынёй журы прэміі Ежы Гедройца. Сёлета ў лонг-ліст прэміі патрапілі 13 кніг (сярод аўтараў — Андрэй Адамовіч, Валянцін Акудовіч, Сяргей Балахонаў, Альгерд Бахарэвіч, Марыя Роўда). Кароткі спіс будзе абвешчаны ў пачатку верасня.

• Падчас будаўніцтва новага офіса кампаніі *Bloomberg* у Лондане зробленая цікавая знаходка: драўляныя шыльдачкі, на якіх англічане (і не толькі яны) пакідалі пісьмовыя паведамленні. Гэтыя помнікі археалогіі датуюцца першым стагоддзем. Замест атраманту для запісаў выкарыстоўваўся воск, які аказаўся дастаткова трывалым: навукоўцы расшыфравалі і пераклалі на сучасную англійскую мову больш як пятую частку пісьмёнаў. Яны не раскрываюць падрабязнасцяў асабістага жыцця старажытных брытанцаў, але даюць звесткі пра дзелавыя, збольшага крэдытныя справы. Археолагі абвясцілі, што гэта найстаражытнейшая знаходка на тэрыторыі Лондана за ўсю гісторыю.

• Кніжная выстаўка на Краснай плошчы ў Маскве дала нечаканы плён. Тут падчас сустрэчы з Прэм'ер-міністрам РФ пісьменнік і рэктар Літаратурнага інстытута імя Горкага Аляксей Варламаў выказаў меркаванне пра дэфіцыт помнікаў і скульптур айчынным аўтарам. Дзмітрый Мядзведзеў даў згоду на стварэнне і ўсталяванне помніка Андрэю Платонаву, якога Варламаў паставіў першым «у чарзе». Акром таго, помнік пісьменніку, нядаўна зроблены ў Варонежы, перавязуць на тэрыторыю Літінстытута: у адным з яго карпусоў на Цвярскім бульвары пражываў у свой час Платонаў.

• Міжнародны кніжны фестываль дзяржаў афрыканскага кантынента ў Камеруне адзначыў дзень нараджэння Аляксандра Пушкіна. Акрамя шэрагу літаратурных мерапрыемстаў, 6 чэрвеня ў сталіцы Яундэ адбыўся канцэрт джазавай выканаўцы Жаэль Эсо, якая прысвяціла паэту музычную праграму «Ад Ганібала да Пушкіна». Па словах літаратуразнаўцы з Беніна Дзьёдонэ Гнаманку, Пушкін стаў не толькі пачынальнікам новай эры ў гісторыі рускай літаратуры, але і стварыў сувязь паміж народнай культурай і ўсім светам, першым стаў выкарыстоўваць афрыканскія матывы ў расійскай культурнай прасторы.

# Сцяжынамі аўтэнтычнага фальклору

Усвядомасці, нервовых канчатках і рэцэптарах кагорты руплівых даследчыкаў, віртуозных выканаўцаў розных жанраў мастацтва, вядомых у навуковых і арт-колах як фалькларысты, абмен рэчываў паскараецца — з падачы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў — напярэдадні юбілейнай X Міжнароднай навуковай канферэнцыі «Аўтэнтычны фальклор: праблемы захавання, вывучэння, успрымання».

Чым здзівіў сёлетні форум? У першую чаргу — тэндэнцыяй да самаразвіцця і прыцягальнай сілай каранёвага мастацтва народаў свету, што ўцягвае ў свае варункі ўсё больш і больш новых адэптаў, прычым адэптаў маладых і відавочна таленавітых. Акрамя ўжо традыцыйных частак канферэнцыі — навуковых пасяджэнняў, канцэрта носьбітаў традыцый «Фальклор беларускай глыбінкі», майстар-класаў, мастацкай рэканструкцыі свята (сёлета — валачобнага абраду) у музеі-скансэне, — у праграме канферэнцыі ўпершыню з’явілася новая — выстаўка акварэльнага жывапісу, аб’яднаная з прэзентацыяй этнаграфічнага фільма ў галерэі «Універсітэт культуры». А кульмінацыяй форуму, на мой погляд, сталася вечарына пабытавага танца і дударскай музыкі *Folk Prime*, наладжаная ў мінскім начным клубе *Music Hall*.

З 2007 года ўдзельнікі канферэнцыі заклікалі да вывучэння ўсіх бакоў фальклору і яго адаптацыі да сучаснасці. Адчуўшы і аб’ектыўную неабходнасць «звароту да каранёў», і абмежаванасць «вузкадысцыплінарнага» падыходу да этнакультуры, філосафы Уладзімір Конан і Мікола Крукоўскі ўжо тады шукалі сістэмныя формы працы з фальклорам, чакалі надання яму шматмерных характарыстык для інтэграцыі ва ўсе сферы айчыннай культуры. Дзякуючы пасіянарным намаганням навуковай супольнасці, беларусы маюць шыкоўныя нізкі гратэскна-эпічных антрапалагічных фільмаў Зінаіды Мажэйка (пачынала як этнамузыколаг) і дакументальна-навелістычных фільмаў Рэгіны Гамзовіч (пачынала як журналіст). Сінхронна-рэгіянальны кампаратыўны «зрэз» фальклору краіны занатаваны ў зборы «Традыцыйная мастацкая культура беларусаў» (спецыяльная прэмія Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь дзеячам культуры і мастацтва 2015 года), а яго ўкараненне ў этнакультурнае выхаванне — у фестывалі фальклорнага мастацтва «Берагіня», які задумалі і якім апякуюцца ўкладальнікі гэтага збору на чале з Тамарай Варфаламеевай, Міколам Козенкам і Аленай Боганевай.

Падобныя тэндэнцыі па сінтэтычнасці і ўсебаковасці сучаснага падыходу да фальклору характэрныя і для суседніх краін. Пра іх досвед на пленарным і секцыйным пасяджэннях канферэнцыі распавялі этнамузыколаг Тамара Варфаламеева (Беларусь), этнаарганолаг Богдан Матлаўскі (Польшча), акадэмік Ігар Мацееўскі (Расія), культуролаг Вітаўтас Лукшас (Літва), мастацтвазнаўца і музыка-віртуоз Руслан Кайшыбаеў (Казахстан).

Але «чытаннем дакладаў» фалькларысты сёлета не абмежаваліся. Падчас інавацыйнай для фармату канферэнцыі імпрэзы «Экавясна і маладосць», якая адбылася ў галерэі «Універсітэт культуры», «жывое» выкананне традыцыйных найгрышаў капэлай беларускіх народных музычных інструментаў было аб’яднана адзіным перформансам з рэчаіснасцю антрапалагічнага фільма па сцэнарыі Рэгіны Гамзовіч («Абрад Чырачка, альбо Як у Тонежы вясну гукаюць») і з выстаўкай акварэльнага жывапісу Ягора і Аляксандра Арцюховых. Падаецца, гледачы прысутнічалі пры нараджэнні новай перспектыўнай формы папулярызацыі фальклору і яго самасцвярджэння ў XXI ст.

Як падкрэслівалі ўдзельнікі канферэнцыі, наш час паставіў шмат праблем не толькі перад фальклорам, але і перад чалавецтвам. Глабалізацыю, якую часам вітаюць як пераход грамадства на новы ўзровень жыцця, многія навукоўцы лічаць не зусім паслядоўнай спробай штучна ўніфікаваць сусветную культуру. Міжнародная супольнасць занепакоена гэтым і імкліва бярэ пад ахову фальклорную спадчыну. Менавіта так з’явіліся ахоўныя спісы вуснай і нематэрыяльнай культурнай спадчыны чалавецтва, якія складаюць ЮНЕСКА і кожная з цывілізаваных краін свету.

Ад Беларусі ў спіс нематэрыяльнай культурнай спадчыны чалавецтва ўключаны адзіны элемент — абрад Калядныя Цары з Капыльшчыны. І кантэнт для яго ўключэння ў гэты прэстыжны і эксклюзіўны спіс разам з этнографам Таццянай Кухаронак, тагачасным старшынёй Рэспубліканскага бюро ЮНЕСКА Уладзімірам Шчасным і аўдыявізуальным антраполагам Рэгінай Гамзовіч у 2009 годзе рыхтавала кафедра этналогіі і фальклору БДУКіМ, студэнты і выкладчыкі якой — штогод «мозг, сэрца і рукі» фальклорнага форуму. На канферэнцыі 2007 года прысутнічаў старшыня Сакратарыята канвенцыі па ахове нематэрыяльнай культурнай спадчыны Парыжскага бюро ЮНЕСКА Рыкс Сміт. Напрамкі дзейнасці, якія адкрэсліла стартавая канферэнцыя, паспяхова і плённа доўжацца сёння.

З 2015 года канферэнцыя праводзіцца ў памяць Зінаіды Мажэйкі, якая актыўна працавала ў 1990-я — 2000-я гады ў савеце па абароне дысертацый БДУКіМ, падтрымлівала станаўленне кафедры этналогіі і фальклору, напрамак практычнай фалькларыстыкі і культурна-антрапалагічны падыход да фальклору, які гэта кафедра прапануе. З прафесарам кафедры Энгельсам Дарашэвічам



Фота Марыны Веслухі.

Фальклорны гурт «Васілёчкі» з Гродзенскага раёна прадстаўляе мясцовы валачобны абрад.

Мажэйка супрацоўнічала з 1960-х гадоў, яны былі аднадумцамі і сябрамі па вывучэнні і папулярызацыі беларускай культуры. Мажэйка была прадстаўніком сістэмна-тыпалагічнай інтанацыйнай школы пецярбуржца Яўгена Гіпіуса (у этнамузыкалогіі) і сацыякультурна-антрапалагічнай школы эстонца Ленарта Мэры (у этнакінематаграфіі); з’яўлялася сябрам саюзаў кампазітараў, кінематаграфістаў, музычных дзеячаў Беларусі; сябрам міжнародных камісій *IOV*, Амерыканскага біяграфічнага інстытута, Інтэрнацыянальнага біяграфічнага цэнтра ў Кембрыджы, які ўключыў яе ў спіс «200 вядучых жанчын-інтэлектуалаў свету» і «2000 выбітных інтэлектуалаў XXI стагоддзя».

Канферэнцыя з’яўляецца форумам для носьбітаў фальклору: гурты з усіх рэгіёнаў Беларусі маюць магчымасць прадставіць сябе шырокай аўдыторыі. Сёлета вясковыя выканаўцы Панямоння, Падзвіння і Цэнтральнай Беларусі (гурты «Васілёчкі» з Гродзенскага раёна і «Спадчына» ЦКіНТ вёскі Пагародна Воранаўскага раёна, гурт вёскі Матырына Ушацкага раёна і гурт «Павалякі» Обчынскага СДК Любанскага раёна) прапанавалі кожны свой варыянт валачобнай абраднасці — этнавызначальнай адметнасці беларусаў, прымеркаванай да Вялікадня. Як было заўважна на этнаканцэрце, сваё мастацтва яны дэманструюць маладым гараджанам. А моладзь назірае і вучыцца ў карыфеяў.

У межах постфальклорных канцэртаў, якія звычайна праводзяцца на канферэнцыі ў фармаце вечарын танца і дударскай музыкі, заявіла пра сябе шмат постфальклорнай моладзі краіны: гурты кафедры этналогіі і фальклору «Талака», «Раме», «Страла», «Этнасуполка», «Таццянка-вяснянка», а таксама гурты яе выпускнікоў — «Жвавы карчмар», «Капэля з-пад гаю». Сёння мала хто памятае, што пачалося гэта з дударскіх дыскатэк пачатку 2000-х гурта «Ветах», які сёлета «па-ментарску адпачываў» на фоне сваіх таленавітых вучняў. Стракатая і таленавітая супольнасць, прадстаўленая на канцэрце «*Folk Prime*» («фальклорны пачатак»), па маім меркаванні, — сур’ёзная заяўка на айчынную школу выканаўцаў мастацтва вуснай традыцыі, якая матэрыялізавалася з канцэптуальных пабудоў тэарэтыкаў-шасцідзясятнікаў і практыка-педагагічнага ўкаранення апошніх іх вучнямі. Матэрыялізавалася якраз у такім «фолк-прайме» моладзі нулявых… Моладзь у «М’юзік холе» паказала пранікнёныя спевы, набліжаныя да аўтэнтычных, смыковую і дударскую музыку да зухаватых нізку з імпэтных пабытавых танцаў і маладзёжных гульняў нашай краіны. А «на закуску» паджэмавала з «касмічна-адвабленымі» літоўцамі *Kaukoras* і *Reketukas* і з «рафінавана інструментальнымі» казахамі «Айнаколь».

Майстар-класы ў межах канферэнцыі ў свой час праводзілі такія легенды фальклорыстыкі і постфальклору, як Бернард Гарай (Славакія); Ульрых Маргенштэрн (Германія); Сяргей Старасцін і Дзмітрый Рыбальскі (Расія); Мікола Козенка, Алесь Лось і Алесь Жура (Беларусь); Віната Романе і Анс Атаол Берзінь (Латвія). Сёлета адбылася сустрэча з дударом-віртуозам Дзянісам Сухім і дамрыстам Русланам Кайшыбаевым — носьбітам традыцый рэгіёна, дзе знаходзіцца Астана — сталіца Казахстана.

Пра тое, што этнічнае мастацтва застаецца актуальным у XXI ст., сведчыць і статыстыка: у сёлетняй канферэнцыі ўдзельнічалі 110 даследчыкаў з 10 краін (Беларусь, Расія, Украіна, Польшча, Літва, Латвія, Бельгія, Малдова, Казахстан, Кітай), з іх — 6 дактароў навук і 20 кандыдатаў навук, шмат маладых даследчыкаў. Падаецца, фолк-прайм па сцежках аўтэнтычнага фальклору сёлета вадзілі не дарэмна.

**Чэслаў ВОХАЎ**

*Спадчына*

# Прыйдзі, дождж, калі просяць!



На Магілёўшчыне да 2016 года былі вядомыя 11 аб’ектаў, якія ўключаны ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь. Сярод іх — «Песенная спадчына вёскі Галавенчыцы» Чавускага раёна, «Тэхналогія вырабу драўляных музычных інструментаў майстрамі Круглянскага раёна пад кіраўніцтвам Аляксандра Харкевіча», «Майстэрства майстроў-шапавалаў Дрыбінскага раёна», абрад «Варвараўская свечка» вёскі Басценавічы Мсціслаўскага раёна ды інш. Зусім нядаўна спіс папоўніўся абрадам «Закліканне дажджу ў вёсцы Стары Дзедзін».

У гэтым паселішчы назапасілася нямала цікавых традыцый. А народны фальклорны калектыў «Астранка» не толькі іх захоўвае, але і перадае маладому пакаленню.

Яшчэ ў 2010 годзе старадзедзінцы здзівілі абрадам заклікання дажджу: тады, пасля сакральных дзеянняў, сапраўды пайшоў дождж! Распавялі пра гэта карэспандэнт Клімавіцкай раённай газеты «Родная ніва» Таццяна Падліпская і фотакарэспандэнт газеты «Звязда» Анатоль Кляшчук.

Дасканала ж вывучылі і зафіксавалі абрад спецыялісты ў 2012-м. Носьбіт абраду — Галіна Брыкава. Сама яна пра звычай даведалася ад жыхаркі вёскі Стары Дзедзін Зінаіды Асіпенка.

Сутнасць абраду ў тым, што падчас засушлівага лета жанчыны, ідучы з працы, дамаўляліся пераараць раку. Галоўнае, каб пра задуму ніхто не даведаўся. Узяўшы з сабой саху і пугу, змоўшчыцы збіраліся каля ракі. Прачытаўшы малітву «Ойча наш», жанчыны хрысціліся і пачыналі абрад: заходзілі ў ваду і цягнулі па дне ракі плуг — «аралі ваду». Прычым дзве жанчыны цягнулі плуг, адна ішла за ім, а яшчэ адна пугай паганяла, астатнія спявалі абрадавую песню. Рухаліся ўпоперак ракі.

Але дождж мог пайсці і не адразу. Старажылы кажуць, што трэба было пачакаць дзянёк-другі.

**Дар’я ЭВЕРС, фота аўтара**

# Марак-паэт з Дуброўна

## стаў адным з герояў графічнага малюнка Пушкіна




**Многія даследчыкі лічаць: сёння пушкіназнаўства як навука сябе вычарпала. Аднак гэта не зусім так. Вывучэнне жыцця паэта, асабліва яго акружэння, дазволіла выявіць новыя цікавыя факты, што вымагае пераасэнсаваць зробленыя раней высновы пра асобу генія.**

Вядома, што ў Аляксандра Сяргеевіча было шмат стасункаў з беларускімі мясцінамі. Мяне заўсёды цікавіла пытанне: каго ж з нашых суайчыннікаў ён згадваў?

Вельмі рэдка, але сустракаліся звесткі, што ў Пушкіна ёсць «нешта» пра вядомага афіцэра-марака Аляксандра Казарскага, выхадца з мястэчка Дуброўна, што на Віцебшчыне. Дзякуючы нядаўна выяўленай перапісцы паэта, накідам яго запісаў і чарнавікоў, якія не публікаваліся раней, стала магчымым прывесці цікавыя факты іх знаёмства, стасункаў і, як вынік, адлюстравання ў творчасці паэта, які часта выкарыстоўваў графіку.

Першым з беларусаў, чыя выява ёсць на групавым малюнку, стаў Аляксандр Казарскі, будучы нацыянальны герой Расіі. Да таго ж ён аказаўся персанажам накідаў да рамана Пушкіна «Яўгеній Анегін». Паэт адзначаў, што ў большасці выпадкаў з'яўленне яго малюнкаў звязана з няскончанымі вершамі. Не ішла рыфма, не даваўся эпітэт — тады лакуна дапаўнялася малюнкам. Але як растлумачыць з'яўленне профілю Казарскага ўжо на другім малюнку ў чарнавіках «Яўгенія Анегіна»? Можа, жаданнем напісаць пра яго? Калі і дзе два Аляксандры, амаль аднагодкі, маглі пазнаёміцца? Паводле даследчыкаў з горада Нікалаеў (Украіна), з будучым героем паэт пазнаёміўся падчас паўднёвых ссылак у 1823 г. Будучы капітанам кацера «Сокол», Казарскі неаднаразова бываў у Адэсе і наведваў літаратурны гурток у Нікалаеве, які тайна дзейнічаў вакол сямейства братоў Уладзіміра і Карла Даляў ды іх маці. Усе яны складалі вершы і высока ацанілі талент Пушкіна. Тут і адбылося іх першае знаёмства, бо ёсць шмат сведчанняў, што Пушкін часта ўхіляўся ад жандармскай апекі, з'яўляўся ў забароненых месцах, «знікаў» на караблях Чарнаморскага флоту… Пад уражаннем ад тых сустрэч паэт адлюстраваў на малюнку Казарскага побач з Карлам Далем (братам Уладзіміра Даля), Фурнье, Сільвіа і паэтам-мараком Яфімам Зайцэўскім пад пільным вокам імператара Аляксандра I. Намаляваная ж сякера, якая дакранаецца да галоў Даля і Казарскага, аказалася ў пэўным сэнсе прароцтвам: абодва пасля былі атручаны ў Нікалаеве.

Малюнкі Пушкіна не заўсёды адпавядалі зместу твораў. Але важна, што, паказаўшы Казарскага мэтанакіраваным, з мужным тварам, ён убачыў у ім становучага героя. Уражвае і знешняе падабенства партрэта нашага земляка з барэльефам на надмагільным помніку Казарскаму ў Нікалаеве, што толькі сцвярджае талент Пушкіна і як графіка, які ўмеў схопліваць і адлюстроўваць у партрэтах галоўныя, сутнасныя рысы сваіх персанажаў.

Што ж да іншых персанажаў на малюнку, то А. Сільво — прысланы з Нікалаева грэк венецыянскай службы, капітан II рангу, які камандаваў ваеннамарской гаванню Адэсы. Дуэлянт, страляўся з Пушкіным, які вывеў яго пад мілагучным імем Сільвія ў аповесці «Стрэл». Фурнье — француз, настаўнік пры сям'і М. Раеўскага, які суправаджаў яго ў паездцы разам з Пушкіным на Каўказ у 1820 г. Француз належаў да «Саюза Працвітання» і ў 1826-м быў арыштаваны, а затым, пасля апраўдання, знаходзіўся пад наглядам царскага ахоўнага аддзялення.



*Мемарыяльны камень у Дуброўне ў гонар Аляксандра Казарскага.*

Як у гэтай кампаніі «свавольцаў і бунтаўшчыкоў» на групавым малюнку апынуўся Казарскі, адказаць складана. Бясспрэчна адно: усе захапляліся паэзіяй, былі сябрамі ці знаёмымі паэта. У рукапісе Пушкіна знайшлося яшчэ некалькі партрэтаў Казарскага. Можа, паэт фіксаваў яго рысы, каб пасля апісаць у творах, ці ж дзесьці выкарыстаў як зборны вобраз? Хутчэй за ўсё апошняе. Многія героі яго малюнкаў таго часу ўсё ж пазнаюцца ў некаторых персанажах рамана «Яўгеній Анегін» ды іншых твораў. Але ж атаясаміць партрэты Казарскага на малюнках паэта з яго літаратурнымі героямі пакуль нікому не ўдалося.

Існуе таксама меркаванне (якое я падзяляю), што Пушкін з дапамогай некаторых малюнкаў вёў і своеасаблівы ўлік у падарожным дзённіку «самавольных» сустрэч, а ва ўмовах царскага нагляду часам адлюстроўваў сваіх персанажаў часткова падобнымі з мэтай канспірацыі, таму бывае складана суаднесці іх з пэўным чалавекам. Так было і з малюнкам Казарскага. Спачатку яго аднёслі да цыкла малюнкаў і графікі паэта, аб'яднаным тэмай «Дзекабрысты».

Упершыню ж дакладныя звесткі былі апублікаваныя ў кнізе А. Залатухіна «Пушкін і Нікалаеўскі край». Яго высновы паўтарае Г. Антонаў, аўтар кнігі «Марскія малюнкі ў графіцы Пушкіна». Я правёў самастойнае даследаванне архіўных дакументаў, каб пераканацца ў тым, што такая сустрэча магла адбыцца. У выніку ўсё пацвердзілася. Знайшлося яшчэ два профілі Казарскага, адзін з якіх выкананы амаль у той жа час, што і групавы малюнак. Як высветлілася, ён намаляваны Пушкіным у Другім масонскім сшытку, на аркушы чарнавіка, які адносіцца да III раздзела «Яўгенія Анегіна». Але ці азначае гэта, што Казарскі мог быць адным з прататыпаў рамана? Пытанне да спецыялістаў.

Як вядома, вобразы для рамана паэт браў са свайго акружэння. Хоць галоўныя героі маюць дакладных прататыпаў, але ўсё без выключэння характары яго герояў былі поліфанічнымі, г. зн. «спісваліся» з некалькіх людзей. Штуршок да стварэння таго ці іншага вобраза давала адзіная стрыжневая постаць, на вобраз якой пазней нанізваліся рысы іншых. Што ж да месца і часу з'яўлення другога малюнка, то пушкіністамі ён аднесены да адэска-нікалаеўска-кішынёўскай ссылкі 1824 г., калі паэт дакладна мог сустракацца з Казарскім.

Якую ж ролю адводзіў Пушкін Казарскаму ў творах, пакуль застаецца загадкай. Ці ён быў занесены у спіс будучых персанажаў, ці пра яго ўжо было нешта напісана, адказаць цяжка. Супастаўляючы дэталі сувязей Пушкіна з дзекабрыстамі і масонамі, рызыкну прыйсці да высновы, што рукапісы і накіды твора пра Казарскага, калі яны наогул існавалі, спасціг лёс многіх сшыткаў паэта, якія ён знішчыў пасля выкрыцця змовы дзекабрыстаў у снежні 1825 г.

Пра гэта сведчыць і запіс, зроблены Пушкіным у 1830 г. у «радаводзе Пушкіных і Ганібалаў»: «У канцы 1825 года пры раскрыцці няшчаснай змовы я мусіў спаліць свае сшыткі, якія маглі змяшчаць імёны многіх, а можа, і памножыць лік ахвяр. Не магу не шкадаваць пра іх страты: я ў іх гаварыў пра людзей, якія пасля зрабіліся гістарычнымі асобамі, са шчырасцю дружбы ці кароткага знаёмства».

Што ж да іншых згадак Пушкіна пра Казарскага, то нельга не прывесці такую ацэнку паэта: «Сёння двару быў прадстаўлены бліскучы Казарскі». Гэтыя словы былі выяўлены ў не апублікаваных раней чарнавіках. Некалькі ніжэй змяшчаецца яшчэ адна загадкавая фраза: «Дзяржава ў дзяржаве» (!). Вядома, што гэта больш позняя адзнака нашага земляка (1831 г.). Што хацеў сказаць вялікі рускі паэт, пушкіністы пакуль не расшыфравалі, але якая ацэнка!

Аднак гэта яшчэ не ўсё. Паэт-партызан, герой вайны 1812 г. Дзяніс Давыдаў у вершы, прысвечаным мараку-паэту Зайцэўскаму, апявае і Казарскага, называючы яго «жывы Леанід», параўноўваючы з царом старажытнай Спарты. Асабліва ўсхвалявала Давыдава мужнасць паэта-марака з карабля «Парыж» Яфіма Зайцэўскага, які праславіўся пры знішчэнні флатыліі турэцкіх берагавых судоў пры штурме крэпасці Варна і атрымаў цяжкое раненне. На працягу аднаго года ён быў узнагароджаны ордэнамі св. Уладзіміра IV ступені, св. Георгія IV ступені, залатой шабляй з надпісам «За храбрасць». Збліжала абодвух герояў і тое, што яны былі сабратамі па пяры. У гонар подзвігу параненага героя Давыдаў і адгукнуўся пасланнем «Зайцэўскаму, паэту-мараку», аднак пры гэтым хоць і коратка, але ўжо не менш захоплена апеў і Казарскага.

Пасланне было перададзена ў «Литературную газету», але цэнзура не дазволіла яго друкаваць: падазроным падалося тое, што аўтар асмеліўся захоплена вітаць капітан-лейтэнанта. У выданне верша ўмяшаўся трэці паэт — А. Пушкін, які ў сваім лісце ад 4 лютага 1830 г., афармленым ад імя выдаўцоў «Литературной газеты» на імя Канстанціна Бараздзіна (старшыні Санкт-Пецярбургскага цэнзурнага камітэта), выказаў просьбу «...даць іншага, менш наравістага цэнзара». Вось пры такіх абставінах вялікі паэт згадаў нашага земляка ў трэці раз.

Распавядаючы пра Казарскага, варта нагадаць, што 14 мая (27 мая 1829 г. па новым стылі) ён здзейсніў з экіпажам 18-гарматнага брыга «Меркурий» нябачаны ў сусветнай марской гісторыі подзвіг, выйшаўшы пераможцам у няроўным баі з турэцкай эскадрай. За што неаднаразова быў увекавечаны ў памяці нашчадкаў. Гэта яму ў Севастопалі ўзведзены першы з дзвюх тысяч велічны помнік — «Казарскаму. Нашчадкам у прыклад». Імем Казарскага названы вуліцы ў Дуброўне, Нікалаеве і Севастопалі, стэла ў Маскве, памятны знак і мемарыяльная дошка ў Дуброўне. Подзвіг камандзіра і экіпажа «Меркурия» апеты ў творах У. Даля, Л. Талстога, Н. Багалюбава, адлюстраваны ў жывапісе І. Айвазоўскага, М. Красоўскага, А. Багалюбава, одах француза Сэн-Тома, песнях і музыцы М. Глінкі, народнай песні «Казарская», якая доўгі час выконвалася маракамі ўсіх флатоў Расіі. Тэкст (30 куплетаў з прыпевам) быў надрукаваны ў часопісе «Морской сборник» у 1854 г., але да гэтага часу невядомы беларускаму чытачу.

**Міхась ЛЯШЧЫНСКІ**

# Як вяртаецца памяць

**«Бацьку» Рыгора Барадуліна, «Лісце каштанаў» Уладзіміра Караткевіча, «Сямнаццатай вясной» Івана Навуменкі... Многія пісьменнікі, звяртаючыся да свайго дзяцінства, юнацтва, такой важнай для асобы пары сталення, вымушаныя ўспамінаць пра вайну. Пакаленне «шасцідзясятнікаў», якое, лічы, рабіла новую беларускую літаратуру, выйшла з трыццатых-саракавых і вынесла з сабой жудасныя ўспаміны.**

Светлая, поўная чаканняў пара дзяцінства непарыўна звязаная са смерцю, нястачамі, выпрабаваннямі і для Барыса Сачанкі. Яму было ўсяго пяць гадоў, калі пачалася вайна. Знаёмы сюжэт: бацьку забіраюць на фронт, процьма малых дзяцей і гаспадарка застаюцца на плячах жанчыны. Праз гэта прайшла ўся Беларусь, і не паўтарыцца немагчыма. І ўсё ж кожны такі аповед — унікальны. Кожны пісьменнік прыўносіць сваё. Аўтабіяграфічная аповесць «Засталіся толькі ўспаміны...» Сачанкі адрозная тонкім адчуваннем адносін між жанчынай і мужчынам, непасрэднасцю ўспрымання падзей і вобразаў, што пакідалі ў дзіцячай памяці людзі, а таксама — разуменнем, што не існуе ў свеце чорнага і белага. Рэфрэнам праз усю аповесць гучыць замова, якую паўтарае маці: «Выжыць, дачакацца».

Успаміны гэтыя разам з шэрагам апавяданняў, публіцыстычных тэкстаў склалі кнігу «Пад сузор’ем сярпа і молата», якая чакала свайго выдаўца дваццаць гадоў. Публіцыстыкі тут насамрэч больш. Асаблівай увагі заслугоўваюць эсэ, прысвечаныя беларускай эміграцыі, рэпрэсіраваным літаратарам, пісьменнікам-сучаснікам, вечна актуальнаму пытанню мовы. Надзвычай цікавы дакумент — адкрыты ліст да Пракурора БССР Г. С. Тарнаўскага, дзе Барыс Сачанка ставіць рубам моўнае пытанне, дакладней, пытанне пра «Закон аб мовах у Беларускай ССР».

Факты, якія пісьменнік збіраў цягам многіх гадоў, рызыкуючы і кар’ерай, і асабістай свабодай, надзвычай цікавыя, хоць многія з іх сёння — нагадаю, паміж укладаннем і выданнем кнігі прамінула дваццаць гадоў — вядомыя. Але мы вернемся да аповесці.

Мова яе традыцыйная для нашай літаратуры, простая, немудрагелістая. Такі выбар Сачанкі зразумелы: ён не меў на мэце здзівіць чытача вадаспадамі метафар. Галоўнае — згадаць, занатаваць, перадаць дакладна і праўдзіва, не схлусіць сабе, не ўвесці ў зман чытача. Гэта было надзвычай важна не таму, канечне, што дзіцячыя ўспаміны такія каштоўныя. Справа ў гістарычнай дакладнасці. Асабліва — у вобразах, выпісаных на старонках аповесці, дзе сустракаюцца і добразычлівыя акупанты, і звераватыя «свае», якія, атрымаўшы ў рукі зброю, сталіся больш чужымі за прышлых. Надзвычай ярка такі тыпаж выпісаў у свой час Вячаслаў Адамчык.

Таксама моўная стрыманасць падкрэслівае: апавядальнік глядзіць на свет вачыма дзіцяці. Ён сам не дае характарыстык персанажам — толькі праз вусны дарослых, бацькі ці маці. Гэтаксама проста, як пра звыклую рэч, ён распавядае пра смерці, якіх нямала пабачыў на ўласныя вочы. Тым большае



ўражанне пакідае аповед. Несувымернасць падзей і інтанацыі, з якой тыя апісваюцца, ствараюць эфектны кантраст. І смех, і плач перадае Барыс Сачанка аднолькава, як факт.

Вайна займае ў аповесці цэнтральнае месца — дзве траціны зместу. На яе фоне асабліва драматычна выглядаюць узаемаадносіны бацькоў. За штодзённымі клопатамі, якія маюцца і ў маці, і ў бацькі, за іх доўгімі расстаннямі, за цяжкім, шэрым побытам адчувальныя трапяткія, далікатныя адносіны мужчыны і жанчыны, іх глыбокая сувязь. Пара штрыхоў, адно слова, і чытачу раскрываюцца пачуцці героя, узрушанасць за ўдаваным спакоем.

Часцей за ўсё гэтыя пачуцці перадаюцца праз дыялог. Мова герояў традыцыйна служыць для іх характарыстыкі, а таксама — для выражэння погляду самога аўтара. Відавочна, Барыс Сачанка пагаджаўся з бацькам, перадаючы яго словы пра несвабоду чалавека, пра залежнасць ад улад, якія адвеку нечага патрабуюць і нічым маленькаму чалавеку не дапамагаюць. Прага свабоды ў вобразе бацькі, Івана, адыгрывае выключную ролю. У вачах сына Іван Сачанка быў незалежным, нязломным чалавекам. Не непераможным — што можа звычайны селянін? — але сапраўды нязломным. Цягам усёй аповесці Іван адстойвае права не прымаць пазіцыю, навязаную то адной, то другой уладай, але заставацца сабой. Гэта чалавек, для якога каштоўнасць мае спрадвечнае: сям’я, каханне да жонкі, сумленная праца, будучыня дзяцей, чыстае сумленне, незаплямленая годнасць. Трымацца такіх прынцыпаў складана, але Івана падтрымлівае думка пра сям’ю.

Гэта вобраз-антыпод Купалавага Мікіты Зносака. Як той быў чалавекам-флюгерам, так Іван не шукае выгоды, а толькі бароніць сваё. Вобраз маці, хоць ёй і прысвечаная аповесць, тут саступае на другі план. Яна, як і многія іншыя гераіні ваеннай беларускай літаратуры, моцная і ціхая жанчына, палахлівая і ў той жа час бясстрашная. Цікава, што Сачанка не падае апісанне яе знешнасці, набліжаючы вобраз сваёй маці да архетыпу Маці.

Трагічныя моманты ў аповесці перамяжоўваюцца з горкім гумарам, які падкрэслівае незалежнасць палешукоў. Сачанка захоўвае іх каларытную мову, сугучную іранічнаму, зацятаму характару беларуса. Прыкладам, сцэнка, у якой удзельнічалі паліцаі і гаспадар, чыю свінню выпадкам падстрэлілі падчас «вучэнняў».

«Гаспадар прыйшоў сварыцца на паліцаяў, а тыя, разлаваўшыся, ледзь самога дзядзьку не застрэлілі.

— І-і, — заікаўся, крычаў на дзядзьку Іван. — Мы ўласць, і нам можна!

— Гаўно ета, ды не ўласць, калі ў ёй служаць такія стральцы, што не ў мішэнь пападаюць, а ў свінню!..

Тут і пачалося. Дзядзька ледзь ногі вынес... Бо паліцаі, разлаваныя, па самім дзядзьку пачалі страляць. Добра, што не пацэлілі...»

Становішча маленькага чалавека ў вялікім свеце цудоўна паказанае ў апісаннях жыцця ў Германіі, у рабстве мясцовага фермера. Спачатку людзей трымалі за прылады працы, кармілі адно так, каб тыя маглі трымацца на нагах і служыць. Затым прыйшлі «вызваліцелі»: і амерыканцы, і англічане трымаліся сваіх інтарэсаў. Змяняліся сцягі, форма салдат, але не стаўленне да «прыгонных». Для таго, каб вярнуцца на Радзіму, людзям самім даводзілася шукаць машыны, сілай прабівацца праз шматлікія межы і абыякавасць чыноўнікаў. І ўсё адно пад пагрозай Сібіры, лагернага жыцця, расправы людзі вярталіся дадому.

Далейшыя старонкі мусілі стаць весялейшымі: людзі аднаўляюць побыт, вяртаюцца да чалавечага жыцця, але і тут — абыякавасць улад, барацьба палітычных сіл, у якую зноў спрабуюць уцягнуць Івана Сачанку — і тысячы іншых стомленых беларусаў. Гэтую «эстафету» пераймае сын, Барыс Сачанка, які цярпіць пераслед за сваё мінулае (быў у Германіі — значыць вораг), літаратурную дзейнасць (свае не могуць быць кепскімі персанажамі!). Да ўсяго, як кантрольны стрэл, — Чарнобыльская катастрофа.

Вядома, гэта не самы адметны празаічны твор Барыса Сачанкі. Але як гістарычны помнік, дый сведчанне чалавечай мужнасці, яго ўспаміны маюць вялікае значэнне.

**Наста ГРЫШЧУК**

# «І нельга памерці, і жыць невыносна»

**Свет дзівіцца прарочым радкам паэтаў. Асабліва — несуцешным прагнозам. Вось жа, думае, нагукаў сабе бяды. Ці захапляецца мужнасцю, з якой паэт прадбачыў свой сумны канец, а ўсё адно ішоў да яго. Кажучы радкамі Васіля Гадулькі, «у цемры асвятляе шлях да згубы».**

Іронія ў тым, што дзіўнага нічога ў такіх прароцтвах няма. Паэт, як ніхто іншы, надзелены ясным зрокам. Нягледзячы на інтуітыўнасць творчасці, ён кіруецца непарушнай логікай, адчуваннем сувязей між падзеямі. Маючы гэта пры сабе, няцяжка прадказаць, чым усё завершыцца. Васіль Гадулька таксама бачыў і напісаў пра тое ў сумнавядомай аўтабіяграфіі: «рыхтаваў зборнік вершаў і баек, але надрукаваць яго не паспеў», «у страшэннай галечы і без сродкаў для існавання, не зразуметы, расчараваны і пакінуты ўсімі трагічна памёр». Так і сталася.

Зборнік вершаў і баек дапоўніўся «Паэмай без назвы», вянком санетаў і ліставаннем з Галінай Самойла. І выйшаў сёлета ў Беластоку, пад назвай «Па-над сцежкай лёсу».

У лістах да Г. Самойла Васіль Гадулька запэўніваў: не варта імкнуцца да знешніх эфектаў у вершы, трэба насуперак патрабаванням літаратурнай моды заставацца сабой. Сам ён нязменна следаваў гэтаму запавету, застаючыся ў вершы гранічна шчырым. Мы бачым чалавека страшна стомленага, расчараванага ў жыцці, якое абдзяліла яго і асабістым шчасцем, і прызнаннем, і матэрыяльнымі выгодамі. Ён, відавочна, не пагадзіўся б з легкадумна-прыгожым выказваннем пра тое, што мастак мусіць быць галодным. Аднак нястачы ніколькі не азлобілі яго, не здолелі здрабніць вялікі талент.

Талент адчуваць прыроду як частку сябе (менавіта так: не сам паэт раствараецца ў прыродзе, але робіць яе неад’емным складнікам паэзіі, пераносіць на яе ўласныя перажыванні, антрапамарфуючы дрэвы, вецер, навальніцу і інш.). Талент беспамылкова арыентавацца ў змроку. Васіль Гадулька не займаўся самасуцяшэннем. На першы погляд, яго лірыка — лірыка смерці, адмірання. Але ён не перабольшвае ні значэння смерці, ні сваёй ролі ў свеце. За гэтым бачыцца не ўдаваная сціпласць творцы (маўляў, я вялікі, але прызнавацца ў тым не буду — пастаю наводдаль, каб прыцягнуць увагу чытача і выклікаць замілаванне натоўпу). О не: ён цудоўна разумеў, што з яго адыходам нічога не зменіцца, што смерць — частка жыцця. Сам Гадулька не стварае антрапаморфны вобраз смерці, але па стаўленні яго да гэтай з’явы мы самі можам намаляваць яе партрэт: гэта такая стомленая ад бясконцых папрокаў жанчына, якая глядзіць на мірскую валтузню спакойна і нават крыху з гумарам, ціха робячы сваю справу. Гадулька не тое каб сімпатызуе смерці, але адчувае ў ёй патрэбу. Не заломваючы драматычна рук, нікога ў тым не папракаючы, ён з верша ў верш усё больш адчувае цяжар бязмэтнага жыцця. Вытрываць можна ўсё; але навошта?..

Ён не ўслаўляе смерць, толькі звяртаецца да яе як да сімвалу волі, вызвалення, збаўлення ад лішняга. Тут паказальны верш «Самагубцы»:

*У проціборстве сіл дабра і зла*
*тупы інстынкт цярплівасці жывёльнай*
*не спрацаваў — душа перамагла,*
*і суджана ёй стаць, як птушцы, вольнай.*

Жыццё, дакладней, боскі запавет — жыць насуперак усяму — тут выступае як «бязлітасны дыктат». Да вобразаў смерці Васіль Гадулька звяртаецца часта: гэта і салавей на магілках, дзеля спеву якога паэт гатовы ўваскрэснуць; гэта кантраснае супастаўленне «багатай» магілы і зарослага грудка зямлі з пахіленым крыжам; гэта перажытая смерць маці, увасобленая ў фармальна вельмі простым вершы-аповедзе, але пачуцці, у яго ўкладзеныя, і бездакорная натуральнасць радка робяць яго вельмі глыбокім, пранізлівым творам.

Зрэшты, гэта — бездакорны радок, натуральнасць, уяўная прастасць — справядліва для лірыкі Васіля Гадулькі ў цэлым. Такі верш немагчыма стварыць адным толькі жаданнем даказаць свой талент, не дапамогуць тут і гульні са словам, знешнія прыўкрасы. Толькі талент, на жаль, загублены. Усё выйшла, як у «Санеце» Гадулькі: «Свет адмовіў паэту ў каханні, / а самога ўсё роўна прызнаў».

Думкамі ён знаходзіўся на памежжы жыцця і смерці. Гэта значыць, ноч усё ж чаргавалася з раніцай, і святло, праблескі сонца ці хоць бы сполахі маланкі ўночы — усё гэта ёсць у яго паэзіі.

*Нездарма ў чаканні ранку*
*моўчкі кожны з нас маланку*
*прыхаваў на дне вачэй.*

Разуменне безвыходнасці ўсё ж не замінала яму спадзявацца на лепшае, на канец гэтай ночы — хоць бы і не для сябе, для народа, для дарагіх сэрцу людзей. Пакутлівая супярэчлівасць нарадзіла радок, які стаў загалоўным для гэтага тэксту — і ён жа самы трапны ў выяўленні самапачування паэта.

**Андрэй ЖБАН**

# «З прывітаннем, Васіль»

Іх ліставанне нельга назваць раманам у пісьмах. Для Васіля Гадулькі маладая паэтэса Галіна Самойла была «недасяжнай зоркаю», надзеяй, падтрымкай. Так, ён не хаваў рамантычных пачуццяў, але заўжды стараўся стрымліваць іх. Прасіў даслаць фота, не хаваў спадзяванняў на сустрэчу — і тут жа выбачаўся, тлумачыў, што ні на што большае не разлічвае, не стане парушаць яе спакой, а толькі прапаноўвае шчырае сяброўства. «Будзем сябраваць, абяцаю, што гэта табе не пашкодзіць, а мне дык знаёмства з табой ужо нават азначыла нейкі пераломны момант у светаадчуванні, ды і ў жыцці наогул — да лепшага, светлага».

Цікаўнасць да гэтага ліставання іншага шэрагу. Тут — прыклад узаемападтрымкі творчых асоб, іх змагання з будзённасцю. Вялікі давер і як вынік — «абмен» вершамі, літаратурная вучоба, калі можна так сказаць. А яшчэ — бясцэнныя сведчанні Васіля Гадулькі пра сябе самога, яго думкі (як на мой погляд — надзвычай трапныя, няхай і выглядаюць яны, быць можа, песімістычна) пра рэчаіснасць: роля інтэлігенцыі ў жыцці краіны, лёс нацыі, матэрыяльны складнік жыцця, пра які зазвычай маўчаць (а дарма).

Надзвычай шкада, што аб'ём газетнай паласы не дазваляе надрукаваць усё ліставанне, нават яго палову. Даводзіцца апусціць і лісты самой спадарыні Галіны. Але найбольш значныя вытрымкі з лістоў Васіля Гадулькі — вашай увазе.

**Наста ГРЫШЧУК**

## Ліст першы. 18 снежня 1986 г.

*в. Федзькавічы*

Добры дзень, Галя!

Вырашыў напісаць Табе, не чакаючы, калі мне стане сумна. Пакуль што мне не сумна, жыву пад уражаннямі.

Спачатку мне хацелася б хоць коратка, але, па магчымасці, аб'ектыўна і без прыўкрас расказаць пра сябе ўсё, каб Ты ў цэлым ведала, з кім маеш справу. Гэта неабходна.

Мне ўжо 40 год. Гэта, вядома, ні ў якім разе не трагедыя, але здароўе ўжо, зразумела, не тое. Я маю на ўвазе, што перад семінарам крыху захварэў, але не паехаць не мог. На семінары адчуваў сябе нядобра і выгляд меў не лепшы. Ад гэтага таксама бянтэжыўся звыш меры, маючы і без таго характар занадта сціплы.

Можа, якраз з-за гэтай чортавай сціпласці і жыццё маё дагэтуль склалася ў цэлым з няўдач. Я заўсёды адмоўна адносіўся да розных прыстасаванцаў, кар'ерыстаў і г.д., а самога сябе сцвердзіць як асобу сярод людзей не ўдавалася. Дый у каханні таксама не шанцавала неяк, таму сёння я — стары халасцяк, а гэта, мне здаецца, у вачах людзей яшчэ горш, чым калі б я быў, напрыклад, разведзены, або нават проста пакінуты жонкай. А так кожны цябе лічыць у лепшым выпадку дзіваком, а часцей за ўсё, як асобу, круглым нулём. Паводзіў я сябе таксама не так, як лічыцца неабходным весці сябе старому халасцяку, а, як кажуць, аскетычна, ставячы на першае месца каханне, якога не знаходзіў, дый не шукаў. Таму перспектыва завесці сям'ю ўсё болей звужалася, і сёння я лічу яе для сябе, можа, нават і нерэальнай. Але… урэшце хто яго ведае! У жыцці часам здараюцца і цуды.

Астатняе ты ўвогуле пра мяне ведаеш: што трохі пісьменны і што працую ў саўгасе, што матэрыяльна жыву да смешнага неўладкавана.

Калі ты прачытала свой верш, я адразу заўважыў, што ў Цябе ёсць не толькі сапраўдны (шчыры) талент, але й, галоўнае, нейк мне здалося, што тваё светаўспрыманне, настрой, думкі — усё гэта тое ж, што і я сам адчуваю або адчуваў, толькі выказаць не паспеў ці не змог… Потым вельмі ўзрадаваўся, калі і Барадулін пахваліў той самы верш, і наогул, твой поспех — гэта якраз тое, чаго я вельмі хацеў і што здарылася.

Сорамна мне было б рабіць Табе прызнанне ў каханні, я й не раблю яго, а пакуль што прызнаюся толькі ў адным: бачу ў Табе па-сапраўднаму прыгожага і добрага чалавека з характарам, у нечым сугучным майму характару (гэта калі не зважаць на пэўныя недахопы ў маім), і жаданне ў мяне адно: калі ты не супраць, будзем сябраваць проста як людзі, перапісвацца, а, можа, калі-небудзь і сустрэнемся. (Я ўпэўнены, што Ты зразумееш мяне, таму і пішу пра ўсё гэта проста і адкрыта).

Ці згодна Ты з маёй прапановай? Са свайго боку гарантую шчырасць і ніякай гульні ў флірт.

Мне таксама хацелася б ведаць, як Ты жыла і як жывеш, пра бацькоў, братоў, сясцёр. А таксама і тваю думку пра мяне, ці Ты верыш мне.

Калі будуць вершы, дасылай мне, калі пажадаеш, а я Табе — калі будзе сумна.

Мне здаецца, калі мы будзем сябраваць, мы гэтым у многім будзем карыснымі адно аднаму, а мне дык хоць жыць будзе весялей на свеце, пачну вучыцца жыць па-сапраўднаму і мэтанакіравана.

На развітанне заадно віншую Цябе з наступаючым Новым годам. Няхай прынясе Табе ён многа шчасця, цудоўных вершаў, далейшых поспехаў. І радасці — той, што будзе.

P. S. Даруй, калі што не так. Упершыню ў жыцці пішу пісьмо па-беларуску, а каб да дзяўчыны — дык, мабыць, ужо гадоў з дваццаць не даводзілася складаць падобных эпістул.

З радасцю чакаю Твайго адказу. З прывітаннем, Васіль.

А яшчэ (можа, я ўжо й замнога прашу?) калі не цяжка, вышлі мне, калі ласка, сваю фатакартку, якую-небудзь, маленькую, якая ёсць. Вельмі буду ўдзячны.

## З ліста другога. 10/І — 87 г.

«Асяроддзя» свайго я не баюся. Я так і не прызвычаіўся, напрыклад, да грубай лаянкі і т.п. Характару свайго ламаць не стаў, каб прыстасаваць яго да адпаведных умоў, і — дзякуй богу. Усе даўно прывыклі, што я «белая варона», і таму ніхто ўжо не заўважае гэтага, наадварот, з цягам часу, здаецца, нават пачалі паважаць нават і ў гэтым асяроддзі, хоць я «не выбіўся ў людзі».

Канешна, здаралася, і выпіваў і нават піў з роспачы (ілгаць табе не хачу). Марылася і аб каханні, але неяк не канкрэтна і сумна. […]

Не адзін я заўважыў, што ў сучаснай паэзіі занадта многа знешняга бляску, «бенгальскіх агнёў», як пісаў нейкі крытык. Некаторыя, і нават многія, верш не лічаць вершам, калі ў ім няма нечага такога, каб адразу кальнула ў вока. […] Няма ў іх звычайнага пачуцця, часам мала і думкі. Тым не меней такія вершы адразу кідаюцца ў вочы пры няўважлівым іх разглядванні, як гэта і робяць, напэўна, у рэдакцыях.

Пішы, Галя, так, як пісала дагэтуль. Удасканальвай форму колькі хочаш, але каб твае вершы заўсёды, як і тыя, што чуў ад цябе, кляліся на сэрца мягка, а думкі і пачуцці, перажытыя ці ўяўна-перажытыя — шчырымі.



## З ліста шостага. 24/ІІІ — 87 г.

Сярод нашых паэтаў ёсць адзін толькі чалавек, якому я магу даверыцца ва ўсім. Гэта карэспандэнт нашай раёнкі Васіль Сахарчук. Мы ездзілі разам на семінар, ён як пераکладчык. Можа, помніш: чарнявы, з вусікамі. Спачатку ён быў мне ў многім настаўнікам, а цяпер чамусьці вырашыў, што я ўжо і так дастаткова адукаваны, і ў вершах маіх, якія аддае ў друк (ён кіруе літаб'ядзнаннем пры рэдакцыі), не кране нават знакаў прыпынку, хоць у пунктуацыі я яшчэ «плаваю».

## З ліста восьмага. 4/V— 87 г.

Сапраўды, часам я перастаю быць рэалістам і «філосафам», калі мне хочацца нейкім чынам уздзейнічаць на рэальнасць, папраўліць яе так, каб яна была больш падобна да ідэальнай. Але ўмею нарэшце і спахапіцца і не пакутаваць ад непазбежнага расчаравання. Але ж і ты не павінна была сумнявацца ў самых добрых маіх намерах.

А ўсё-такі, адчуваю, што нешта трэба мне тэрмінова рабіць са сваім жыццём, а то ўсё ілюзіі, ілюзіі і больш нічога. Але ж і паэзія — ілюзія, і музыка, і вера ў лепшае будучае…

## З ліста дзясятага. 30/ VI— 87 г.

Ці не занадта я патрабавальны да сябе? Не, тут справа ў зусім іншым. Разумееш, Галя, я, як кажуць, яшчэ «не знайшоў самога сябе», а лепей сказаць — зусім заблытаўся і ў самім сабе, і наогул. Так, напрыклад, калі я дагэтуль ускладаў надзеі на перабудову, цяпер, калі перабудова набывае рысы рэчаіснасці, я ўсё больш пераконваюся ў тым, што асноўнага пытання — аднаўлення і сцвярджэння сацыяльнай справядлівасці — яна не вырашыць. Таму я — песіміст, а песіміст хіба можа быць добрым паэтам? Сцвярджаць ідэю нейкага абстрактнага дабра? Але ж мы ўсе матэрыялісты, нават прагматысты…А што рабіць!

## З ліста адзінаццатага. 29/VІІ— 87 г.

Узняцца над сваім класам я не магу і не павінен, бо страчу адзіную і апошнюю апору, і ні ў якім іншым класе не прыжывуся. Інтэлігенцыю я не люблю за інфантыльнасць, за тое, што яна не ведае жыцця, за балбатню, безадказнасць і мяшчанства, кіруючыя слаі — за прагу да ўлады, бяскультур'е, нахабства, рабочы клас — за дробнабуржуазныя амбіцыі. Я таксама рабочы, але з самых нізкааплачваемых (пры працоўным дні ў 12 гадзін у полі заробак складае ў сярэднім 3 — 4 руб. А саўгас лічыцца багатым!) І ўсё-такі я не кіну гэтую сваю работу, бо ўжо ніякая пасада і ніякія грошы не прымусілі б мяне заплюшчыць вочы і «дремать в неведенье счастливом». Ды і бацькі мае і ўсе продкі, наколькі мне вядома, жылі ў галечы, а чым я ад іх лепшы? Або ад сваіх таварышаў па працы?

Не веру я таксама, што паэзія і літаратура зробяць кагосьці лепшым або наогул зможа паўплываць нейкім чынам на жыццё. Пакуль што, на мой погляд, уся наша пэзія ў цэлым служыць для таго, каб нейкім чынам усё-ткі прыаздобіць жыццё, адцягнуць увагу ўбок ад самага галоўнага. […]

З У. Караткевіча я пачаў чытаць беларускую літаратуру, каб не ён, можа, я і дагэтуль ёю б не цікавіўся… Але не разумею, як гэта можна — любіць Беларусь. Пра любоў да Беларусі сінявокай, пра родны край, пра бусла, што кружыцца над роднаю хатай, напісана столькі, што каб сабраць усё напісанае, дык напэўна ж хапіла б на цэлую зіму паліць у печы. А па-мойму, любіць яе ніякім чынам нельга, а можна толькі шкадаваць. Мне дык шкада яе за цяжкі і шматпакутны лёс яе народа — гістарычны і цяперашні таксама. І ўсё. А да беларускай мовы я звярнуўся не таму, што сам я беларус (мільёны з нас даўно ўжо для зручнасці адракліся ад роднай мовы), а таму што палічыў справядлівым стаць на бок слабейшага. Вось калі б я таксама калі-небудзь змог паездзіць па Беларусі, пабываць у яе розных кутках — але гэта наўрад ці магчыма — для мяне.

## З ліста пятнаццатага. 4/X — 87 г.

Гісторыяй сёння цікавяцца многія. Але я лічу, што ведаць гістарычныя падзеі, факты (прычым яны заўсёды ў літаратуры асвятляюцца з пэўных класавых пазіцый і таму часам ацэньваюцца дыяметральна пазрозьнаму) мала. Веданне гісторы павінна вучыць нас разумець сучаснасць. Я таксама лічу сябе патрыётам (ва ўсякім разе не абыякавы да лёсу беларускага народа), тым не менеш трэба пагадзіцца з тым, што заняпад нацыянальнага — гістарычна заканамерная з'ява. Тыя ўмовы, пры якіх складваліся нацыі, сёння адсутнічаюць (тэрытарыяльнае, эканамічнае адзінства, мова і г.д.). Класавая няроўнасць падрывае духоўнае адзінства народа. Каб людзі адной і той жа нацыі змаглі зразумець адзін другога, агульнай мовы яшчэ мала. Нават асобныя словы для прадстаўнікоў розных сацыяльных груп маюць рознае значэнне. (Так для сытага слова «хлеб» — проста харчовы прадукт, а для галоднага — гэта і жыццё, і ласунак, і цяжкая праца). Для мяне бюракрат, кар'ерыст, хапуга — нават калі ён не толькі па паходжанню беларус ці ўкраінец, ці рускі, а калі нават і родны брат мой — вораг усё роўна. А патугі інтэлігенцыі захаваць культуру і мову народа асуджаны на няўдачу, бо не інтэлігенцыя стварае культуру, а народ. А тое, што тыя ж літоўцы ці хто іншы глядзяць на беларусаў звысака — гэта ўжо сапраўды нацыянальная абмежаванасць, якая шкодзіць духоўнаму збліжэнню і аб'яд-нанню ўсіх людзей добрай волі ў змаганні за сацыяльную справядлівасць, правы чалавека і адраджэнне нацыянальных культур.

«Нашы лісты рабіліся ўсё больш рэдкімі, — піша Галіна Самойла, — і ўрэшце-рэшт перапіска сама сабой спынілася. Мне здаецца, мы абодва ўнутрана вырашылі маўчаць пра свае няўдачы. Пра няўдачы можна гаварыць, пакуль спадзяешся іх вырашыць. І зусім непрыгожа і непатрэбна скардзіцца на невырашальнае. Дапамагчы адзін аднаму мы не маглі, бо абодва выжывалі на мяжы сваіх жыццёвых сіл і падзяліцца імі было немагчыма».

Лёля БАГДАНОВІЧ



## Споведзь сэрца

*Мне б прытуліцца да цябе,*
*Ды ты убок адводзіш позірк.*
*Як у балоце, у журбе*
*Тану. А ты як быццам побач...*
*Чаму як быццам? Бо адна*
*Удзень, увечар я і ноччу.*
*Даўно парвалася струна,*
*І рукі слухацца не хочуць.*
*Сарваўся голас. Знік мой смех.*
*Куды іду — сама не знаю...*
*Я назбірала думак мех*
*Цяпер я іх распавядаю.*
*Хоць невясёлыя яны,*
*Але ўсе шчырыя, паверце.*
*У іх ні кропелькі маны,*
*А споведзь стомленага сэрца...*
*Збялелы пра матулю сум,*
*Пра дзетак непакой спрадвечны.*
*Збіраю іх па каласку,*
*Каб потым апрануць у вечнасць...*

## Закалыханая зоркамі

*Каляровымі алоўкамі*
*Размалюю кожны дзень —*
*І вясёлкавымі слоўкамі*
*Ўзыдуць пацеркі надзей.*
*Дыяментам росаў вышыю*
*Ночку кожную сваю.*
*І салодкай спелай вішняю*
*Твае вусны наталю.*
*Усміхнецца сонца раніцай —*
*Толькі рук нам не разняць.*
*Песціць ноч-выратавальніца —*
*Упадобіла, відаць.*
*Каляровымі алоўкамі*
*Размалюе кожны міг*
*Закалыханая зоркамі*
*Ноч, што песціла дваіх...*

## Словы

*Я не зманю ні словамі, ні думкамі —*
*І гэта вы адчуеце адразу.*
*Немудрагеліста-пяшчотнымі*
*малюнкамі*
*Жыцця балючага будую сказы.*
*Я назбірала зорак поўны кошык,*
*Вясёлкавы масток пабудавала.*
*Шмат слоў шчымлівых, шчырых —*
*змест грошай —*
*Вузельчыкам на памяць завязала...*
*Ніводнага разочку не зманіла,*
*Я над радочкам кожным недаспала.*
*Пад сэрцам, нібы дзетак, іх насіла*
*І годнае імя ім выбірала.*
*Іх крыўдзіць не спяшайце, калі ласка,*
*Задумлівых, тужлівых і вясёлых.*
*Жыццё аднойчы звяне, нібы краска.*
*Ды памяць захавае тыя словы...*

## Пад роднай стрэшкай

*Каштан да неба, гушкалка ў двары*
*І хата наша з дзядзькам напалам —*
*Той успамін дзіцячае пары*
*Ні за якія грошы не аддам!*
*Я да яго вяртаюся заўжды —*
*Дзе б ні была, мне сніцца родны кут.*
*Лячу маленькай ластаўкай сюды,*
*Душою адпачну пад стрэшкай тут.*
*Бабуля мае коскі запляце*
*І развядзе рукамі боль і сум.*
*Схавае дзед усмешку ў барадзе,*
*А я яму цукерку прынясу.*
*На дзядзькаву палову праз двор*
*Бягу пад вечар з братам пагуляць.*
*Шмат сплыло вады з тых дзіўных пор,*
*Ды чараду ўспамінаў не суняць...*
*Там мама, маладзенькая зусім,*
*Ля печы завіхаецца зрання.*
*Жыву і дыхаю куточкам тым,*
*Дзе першы крок у свет зрабіла я...*

## Зорнае крыло

*Як хутка час ляціць наперад!*
*Не перайначыць, не суняць.*
*Не пераплысці на той бераг,*
*Дзе давялося пакахаць...*
*Упершыню! Ды моцна гэтак —*
*Ажно абодвум знесла дах!*
*Каханне тое і дагэтуль*
*Прыходзіць у пяшчотных снах.*
*Гады яму не перашкода —*
*Нібыта ўчора ўсё было:*
*Гарачых вуснаў асалода*
*І неба зорнае крыло...*
*І водар бэзу ля акенца,*
*Масніцы скрып у соннай хаце,*
*Знаёмым рэхам голас з сенцаў —*
*Ужо дадому кліча маці.*
*Як хутка час ляціць наперад!*
*Не перайначыць, не суняць.*
*Не пераплысці на той бераг,*
*Дзе давялося пакахаць...*

---

Мікола КАНДРАТАЎ



## Святло

*Не гасне святло беларускіх Максімаў,*
*яго прыгубляем бы з келіхаў мы.*
*Яго прадчувала яшчэ Еўфрасіння*
*ва ўлонні далёкай славянскай зімы.*

*Скарына яму запаветы пакінуў*
*на аркушах кніжных жаданай вясны.*
*І лёсам абраным ліцвінкам, ліцвінам*
*аб ім прадсвітальныя сніліся сны.*

*Яно нараджалася з кроўю і болем,*
*як сонца на небе з-пад хмарных павек —*
*у пошуках волі, над безданню ў полі —*
*у розумам жорсткім паскораны век.*

*І промнямі ў прывіднай новай краіне*
*чуллівыя сэрцы яно апякло...*
*Калі гэты свет калі-небудзь знікне,*
*на памяць аб ім застанецца святло.*

## Спадарыня Барбі

*За трамвайным акном дзень стамлёны*
*зліваецца ў шэрыя фарбы.*
*Ды насупраць мяне нечакана садзіцца*
*спадарыня Барбі.*
*Бог яе адарыў сапраўды дасканалымі*
*рысамі твару,*
*а пяшчотная скура на ім авалодана*
*летнім загарам.*
*У адных валасах бледна-снежных*
*жыцця ўжо няма.*

*На прысутных спадарыня Барбі глядзіць,*
*нібы з прыцемкаў ночы —*
*быццам скрадзены з твару яе акулярамі*
*цёмнымі вочы.*
*І між тым у яе, бы з чужога мінулага*
*яўленай гейшы,*
*грацыёзныя рухі, прыгожыя рукі*
*і пах нетутэйшы.*
*У адных валасах бледна-снежных*
*жыцця ўжо няма.*

*А апранута гэта спадарыня ў колеры*
*чорнага з белым.*
*І, здаецца, збываецца ўсё на зямлі,*
*што б яна не хацела...*
*Ты аднак жа, шаноўны чытач,*
*не імкніся шукаць яе марна —*
*цябе знойдзе сама, заваражыць і знікне*
*спадарыня Барбі,*
*у чыіх валасах бледна-снежных*
*жыцця ўжо няма.*

## Пра сабаку і не толькі

*Хто не любіць сабак,*
*мае слова «слімак»*
*для назову імя электроннае пошты —*
*калі з дрэва ты злез,*
*дапаможа «прагрэс»*
*зразумець, што ў сучаснасці*
*іншыя кошты.*

*У бясконцасці дзён*
*столькі новых імён —*
*гэтак некалі нехта замяніць і «сонца».*
*Зло хаваецца ў сны —*
*ад ліхой цішыні*
*быў сабака спрадвеку людскім абаронцам.*

*Баязлівы ці злы —*
*нават маючы слых —*
*лёс бадзяецца часам, як цюцька*
*бяздомны.*
*Гэта слова — з абраз,*
*бо на гаспадара*
*як дзве кроплі бывае сабака падобны.*

*Пішаш прозу ці верш?*
*Для кахання жывеш?*
*Ды нашчадак пра гэта мо нават*
*не ўспомніць.*
*Смелы ты, ягамосць,*
*бараніць прыгажосць —*
*хто ж ад злога самога цябе абароніць?..*

***

*Што можна ў сваю абарону сказаць,*
*калі нечакана прапаў голас?..*
*Балюча, бы на вастрыі ляза,*
*нібы хто нябачны сціскае горла.*

*Зямнымі шляхамі ты праўду шукаў.*
*Ды й ісціна ад нематы не ратуе.*
*Цяпер ад адчаю кусаеш рукаў —*
*нямога цябе толькі Бог пачуе,*

*калі заціхаеш, зняможаны, ты*
*на чорным вязлізным крыжы нематы.*

## Дэбют

Аліна ПАЎЛОЎСКАЯ



**Нарадзілася і жыве ў Гродне. Студэнтка філалагічнага факультэта Гродзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Я. Купалы. Аўтар кнігі вершаў «За небакраем» (2015).**

## Дваццатай вясной

***

*Якое шчасце — сустрэць свой лёс*
*На ціхіх вулак перапляценні,*
*Не пакідаючы нават цені,*
*Кружляць над цемрай сямі нябёс.*

*Якое шчасце — цябе знайсці*
*На бездарожжы пад жоўтым клёнам*
*І пад завесаю паркалёвай*
*Змяркання попелам адцвісці...*

***

*Ты сягоння мой, маё бяссонне.*
*Я сягоння — твой салодкі сон.*
*Не давай, малю, мне апрытомнець,*
*Забірай бязвольную ў палон!*

*Хай гучыць мелодыя кахання,*
*Напаўняе светлай цішынёй*
*Першае трывожнае спаткання*
*Цёплых вуснаў, белых рук сувой.*

***

*Сёння лётнае надвор'е:*
*Горача, зацішна.*
*Залятае на падворак*
*Белы попел з вішняў.*

*Сёння страчанае ўчора*
*Сустракае заўтра.*
*Сёння я — твая прастора.*
*Будзеш касманаўтам?*

***

*Дваццатай, растрывожанай, вясной*
*На беразе самотнага чакання*
*Пад хвалямі вільготнага расстання*
*Знікалі мары — музы дзіўных сноў.*

*Іх воклічы глушыліся вадой.*
*Іх рукі, што шукалі прагна Бога,*
*У роспачы хапаліся за ногі*
*Мае — цягнулі ў цемру за сабой.*

*І я ішла, пакорная, на дно,*
*Пакінуўшы на беразе чаканне.*
*Канала недарэчнае каханне*
*Дваццатай, растрывожанай, вясной.*

***

*У прыроды добрае надвор'е.*
*Толькі ў сэрцы зноў ідуць дажджы.*
*І слата, разбаўленая болем,*
*Па шчаках сцякае і душы.*

***

*А я чакала, верыла табе,*
*Малілася жывым і мёртвым зорам,*
*І жораву, і грушам на вярбе,*
*І сораму падманлівым узорам.*

*Я ўсё сваё маленькае жыццё*
*Гатовая была аддаць задарам,*
*Як дрэвы аддаюць зямлі лісцё*
*Пад хвалямі кастрычніцкіх пажараў...*

*Так, я была гатовая на ўсё.*
*Я верыла табе і ўсё чакала.*
*А ты мяне адкінуў, як рыззё.*
*І я рыззём ля ног тваіх упала...*

***

*Сямёра не чакаюць аднаго.*
*А я свайго адзінага чакаю*
*З далёкіх пераплеценых дарог,*
*Што спяць за бірузовым небакраем.*

*Чакаю, нібы маці ля акна*
*Чакае падарожжамі стамлёных*
*Сваіх дзяцей, якіх даўно няма*
*На свеце, гаманою заімглёным.*

*Чакаю, як чакаюць нежывых,*
*З бязглуздаю, ды ўсё ж такі надзеяй,*
*Што ўсёмагутны, самы чуйны слых*
*Пачуе маё сплаканае «Дзе ён?..»*

***

*Паланяць сэрца Вашы вусны*
*Журботным подыхам нябёс,*
*Няўлоўным водарам спакусы,*
*Салодкім болем. Вы — мой лёс.*
*Ад слоў сваіх не адракуся*
*Ні ў вольным небе, ні ў турме.*
*Кахаю... дзеля Беларусі.*
*Таму яна яшчэ жыве!*



Анатоль БУТЭВІЧ

# Распасажаны дом,

## або Хутарская вольніца

*Урывак з аповесці*

**Прадстаўленая аповесць — пра жыццё на былым заходнебеларускім хутары Язавец, што на Нясвіжчыне, жыхарам якога воляй лёсу наканавана перасяліцца ў вёску. Прапануем чытачам урывак з гэтага твора, поўная публікацыя якога мяркуецца ў другім паўгоддзі ў часопісе «Полымя», дзе некалі была надрукавана першая частка — «Апошняе ігрышча».**

Як толькі ў Мані пачалі набіраць сілу развагі наконт справядлівасці прымусова-добраахвотнага перасялення з хутара ў Баяры, як толькі яе захапіў клопат пра новую хату, прыходзіла разуменне немагчымасці змяніць абставіны, а разам з гэтым нараджалася адчуванне безвыходнасці. Але адчуванне гэтае, што дзіўна, не выклікала супраціўлення — наадварот, яно супакойвала, здымала трывогу, гасіла эмоцыі. Аказваецца, безвыходнасць можа мець і станоўчы ўплыў.

Аднойчы Маня разам з іншымі хутаранамі перажыла ўжо нешта падобнае. Калі калгас стварылі. І сёння яна ўсё больш разумее, што іменна адчуванне безвыходнасці прымушала згаджацца тады і змушае супакойвацца цяпер, больш рэальна зірнуць на ўсю тую сітуацыю, у якой апынулася Іванава сям'я. У Манін плач па хутары, у яе хваласпеў у гонар непаўторнасці і найвышэйшасці хутарскога жыцця сталі ўплятацца ніткі рэальнасці, якія гэтае ўзнёслае палатно мімволі пазбаўлялі многіх яркіх фарбаў. Чым больш астывала Маня, тым больш фарбаў губляў хутарскі дыван.

Быццам нехта іншы нашэптваў: а што, хіба заўсёды такім замілаваным і бясхмарным было тутэйшае жыццё? Няўжо мала было плачу, бяды, гора, нястач? І за палякамі, і пры саветах. Незразумелы хапун зімой 1940 года бязвінных людзей, правінай якіх хіба лічылася тое, што былі беднымі, не маглі купіць зямлі за палякамі, а таму ніякага набытку не нажылі, яшчэ дагэтуль выклікае дрыжыкі і страх. А калгасная старонка хіба не чорнай фарбай пазначана, хіба без страху абышлася? Усё яшчэ не гоіцца балячка. Толькі закрані яе — такім болем адгукнецца, што мала не пакажацца.

Гэта ж трэба было дадумацца, каб самахоць, добраахвотна кідаць у нябачны і недаступны пасля гэтага агульны кацёл усе свае пажыткі і набыткі, расставацца з тым, што нажыта такім салёным потам, які аж вочы выядаў. Чаму самахоць? Бо ўсё рабілася пад маркай уласнага, асабістага жадання хутаран як мага хутчэй далучыцца да савецкай рэальнасці, якая ўжо даўнавата панавала ў Савецкай Беларусі. Выходзіла, што кожны гаспадар сам, па ўласнай волі запрагаў свайго каня, грузіў на воз свае плуг, барану, увесь іншы сельскі інвентар, прывязваў да аглоблі сваю карову і як мага хутчэй самаходзь пёрся у Вялікую Ліпу — у калгас. Там пакідаў не толькі карову, а і каня, вядома. А без каня не адно ў Сноў не з'ездзіш, каб парася на базары купіць і дадому прывезці, а і са сваімі соткамі не ўправішся. Праўда, тым, хто нічога не меў, не надта балела, не баяліся ў калгас ісці — усё адно нічога не губляюць. Ім усё гэта дзіўным прадстаўленнем здавалася.

Каб паказаць і даказаць наяўнасць радасці новаспечаных калгаснікаў, прадстаўнікі сельсавета і калгаснай канторы, якія прыехалі на хутар разам з карэспандэнтамі радыё і цэнтральнай газеты, арганізавалі першы абоз калгаснікаў з чатырох падвод. Героямі дня зрабілі чатыры сям'і. На першую падводу прымацавалі чырвонае палотнішча з нейкім патрыятычным лозунгам. Чырвонымі сцягамі ўбралі і іншыя падводы.

Усё хораша, усе задаволеныя.

А чаго ж тады галасілі жанкі, чаго плакалі дзеці? Чаго прыехаў на хутар міліцыянер Пахомаў, які непрыкметна, але вельмі пільна сачыў за паводзінамі ўсіх — і тых, хто ехаў на вазах, і тых, хто цікаваў праз вокны альбо з-за кустоў на надворку, як і што там адбываецца ў добраахвотнікаў-калгаснікаў?

Агітацыя за калгас не спынялася да той пары, пакуль усе хутаране не прызналі сваёй згоды стаць калгаснікамі. Апошнім аказаўся Міхась Назаноў. Доўга трымаўся ён, не рэагаваў ні на хутарскія пакепліванні і абзыванні аднаасобнікам, куркулём, кулаком, ні на пакуль што нягучныя страшылкі з сельсавета, якія называліся агітацыяй. Урэшце перамаглі страх і агітацыя. Страх не за ўласны лёс — за сыноў з дочкамі баяўся Міхась. Невядома, як паглядзяць на іх начальнікі, калі яны, маладыя, свядомыя, не могуць справіцца са старымі бацькамі. Пад галашэнне Міхасёвай жонкі Волькі і плач іхніх дачок паехала ў калгас, хоць і без чырвонага палотнішча на возе, усё, што трэба было туды аддаць. Аддалі і карову, пакінуўшы сабе цялятка.

А без усяго гэтага які ж ты гаспадар? Звычайны галадранец. Праўда, не зусім звычайны, бо калгаснік. Ды паспрабуй толькі пікнуць, тут ужо адным Пахомавым не абыдзецца. Хоць плач, хоць смейся, а нічога не паправіш, не зменіш і не адменіш. Таму і станавіліся калгаснікамі. Зубамі скрыгаталі, а везлі на калгасны двор усё, без чаго зусім нядаўна не маглі ўявіць гаспадарку. Вялі коней, кароў, нават авечак, калі яны ў некага былі. Калгаснікам нічога не павінна замінаць працаваць на агульную карысць. А на сваю? Дык пра гэта ёсць каму паклапаціцца — калгаснага начальства ніколі не бракавала. Было каму палачак наставіць, працадні падлічыць, нядоімку за недаплачаныя падаткі прызначыць. Толькі вось не мелі хутаране з таго клопату аніякай карысці.

Праўда, не былі б хутаране хутаранамі, каб вось так, без усяго-ўсякага пажадалі застацца без інвентару, з якім за многія гады звыкліся, зжыліся, як з жонкай. Хто барану прыхаваў, хто плуг, а нехта — пастронкі, сявеньку. Адным словам, было ў выпадку чаго і пасеяць, і вырасціць, і зжаць, і абмалаціць, і муку змалоць — агульнымі высілкамі. Цішком пакідалі, ніхто ні перад кім нічым такім не хваліўся, але каб добра пашукалі, то яшчэ не адзін калгасны воз наладавалі б. Хавалі так, на ўсякі выпадак: авось прыдасца.

Шкадаванне доўга не давала ім спакою. Адно ратавала: показка пра тое, што ніколі не можа быць так кепска, каб не стала яшчэ горш. Дык вось, якраз гэтая боязь — каб не стала яшчэ горш — і змушала трымаць язык за зубамі, працаваць за палачкі, а на сходах хваліць свабодную працу на свабодным палетку — відаць, ад гаспадара свабодным, бо цяпер гаспадарамі лічыліся ўсе, нават тыя, хто нічога не прывёз і не прынёс у калгас, бо не было чаго, як, напрыклад, Валодзік Хвілосаф і Жорыка Бандзюковага бацька. Праўда, Жорыка не прамінулі падкузьміць: вось каб не спаліў твой бацька крэсла, што ты са Сноўскіх кашараў прыцягнуў, прыдалося б у калгасе, мякка было б некаму ў канторы сядзець.



Фота Кастуся Дробава.

Маўчалі, працавалі, прывыкалі. Прывыклі. І нават песні пачалі гучаць не толькі на ігрышчах, а і на калгасным полі ці сенажаці. Даказвалі: чалавек трывушчы, любую бяду вынесе, стрывае любы здзек, а вось наконт багацця, дастатку, сытага жыцця — то яшчэ пытанне. Любая рэчаіснасць — іхняя хутарская, чужая для іх вясковая, невядомая ім гарадская — і за палякамі, і пасля іхняга сыходу не раз давала такія прыклады.

Праўда, знаходзіліся на хутары вастраслоўы, якія і пра калгаснае жыццё анекдоты паспелі пачуць, і з баязлівых хутаран пасмейваліся, пакеплівалі з іхняга страху перад калгасам. Закапёршчыкамі гэткіх размоў-пасмейванняў, як правіла, былі Жорык Бандзюкоў ды Валодзік Хвілосаф, ён жа Камуніcцік. Як толькі збярэцца дзе якая кампанія, абавязкова нехта наконт калгаса рэпліку кіне. Слова за слова — і пайшло, і паехала.

— Чаго вы так перажываеце? — пытаўся Хвілосаф у тых, хто адважваўся выказаць хоць бы нясмелую нязгоду з калгасам. — Баіцеся, та-скаць, без працы застацца? Не бойцеся. Яе яшчэ больш будзе. Не сумнявайцеся.

— Праўда, — уставіў свае тры капейкі Жорык. — Якія некалі ў вас былі надзелы? Каб села на Іванаў участак Пахвалёнчыкава Стася, то спадніцай усю зямлю накрыла б. А цяпер жа — каб нават усе жанкі з Язаўца сукенкі ды спадніцы над калгаснай зямлёй распусцілі, дак і то не справіліся б. Во дзе зямля дак зямля. Працуй — не хачу…

— Дак я і не хачу, — ціхенька падаў голас нехта з-за спін іншых.

Гэтыя словы суправаджаліся нягучным смехам і невясёлымі ўсмешкамі. А Камуніcцік далей вёў агітацыю, як называў апошнім часам свае развагі.

— Ці мо багацця свайго шкадуеце? — звяртаўся ён да прысутных і чакаў рэакцыі. Але людзі звычайна маўчалі. — Дак чаго тут шкадаваць? Бог даў, та-скаць, Бог і ўзяў…

Ну, тут ужо было не вытрымаць. Пачуліся гучныя пярэчанні.

— Ну ты і загнуў: Бог даў… Табе то мо Бог і даў. А я сваім гарбом усё нажываў, — казаў Васіль Пулікоўскі.

— Ага, даў яму Бог, — падчэпліваў Хвілосафа Саша Назаноў. — Пустую міску даў ды язык як памяло, які не томіцца лухту малоць.

— Я то хоць нешта мялю, а ў цябе, та-скаць, і гэтага німа, — не лез у кішэню па слова Валодзік.

— Толькі твайго змолатага нават свінні есці ні хочуць, — зусім сур'ёзна прамаўляў звычайна маўклівы Сіневічаў Косцік. — Бо пустоё ў іх карыто.

— А божа ж ты мой, а дзе ж ты ў яго тых свіней бачыў? — пляснула рукамі Жэня Назанова.

— Дак мо таму і не вядуцца свінні, што адным балабольствам корміць, — смяяўся Васіль Пулікоўскі.

Хвілосаф мужна вытрымліваў паўзу, даваў усім ахвочым пазубаскаліць, як казаў ён, а тады сур'ёзна працягваў:

— Вы ж усе, та-скаць, Божыя людзі. Праўда? За палякамі яшчэ большымі вернікамі былі, — трошкі пачакаў адказу, а не дачакаўшыся, працягваў: — У царкву ходзіце, та-скаць, нешта слухаеце там. Дак няўжо ні чулі, што бацюшко казаў, га? Зямное багацце, та-скаць, на небі непатрэбно. Разумееце, га? Не-пат-рэб-но. Ні пусціць вас туды з ім. Усё роўна тут, на зямлі. яго пакідаць прыйдзецца. Дак нашто, та-скаць, абцяжарваць сябе?

— А ты ўжо і з нябеснай канцылярыяй сувязь маеш? Іш, які быстры, — падсмяяў Васіль. — Тады перадай на небо, што нашаё багацце ў нас адабралі. Каб ні пускалі на небо тых, хто яго адбіраў, — і хітравата так зірнуў на Хвілосафа. Але той не надаў гэтаму аніякай увагі.

— Во-во, — засмяяўся Камуніcцік. — Нават бязбожныя камуністыя, та-скаць, зразумелі нябесныя парадкі і памаглі вам вашу веру ўмацаваць. Адабралі, та-скаць, ад вас лішняе багацце, каб вам лягчэй і скарэй было ў царства нябеснаё патрапіць.

— А ты ні грашы, бязбожнік ты.

— Во-во, каб скарэй…

— У каго ты лішняе багацце бачыў?

— Мо табе яно і лішняе, бо ў цябе яго ніколі ні было. А мне пяць ратоў накарміць трэба, тром дочкам пасаг сабраць.

— Дак ты мо яшчэ раней за нас на небо сабраўсё? — пытаецца Васіль Пулікоўскі ў Хвілосафа. — Бо ты ж і за палякамі, і цяпер гол як сакол.

— Ні толькі гол, але добры пусты балабол, — трохі зласнавата падчапіў Саша Назаноў.

— А гэта, та-скаць, хто на што радзіўсё, той на тоё і згадзіўсё, — адказаў Валодзік Хвілосаф, і было не зразумець, ці то ён спрачаецца з Сашам, ці то згаджаецца з ім.

Такія альбо падобныя размовы-спрэчкі-падсмейванні на пачатку калгаснага жыцця былі частымі. Але з часам пачуцці прыгаслі, языкі прытаміліся. Людзі паступова прывыкалі да новага становішча, злосці і крыўды паменшала — ці мо прыхавалі ад чужых вачэй і вушэй. А неўзабаве і зусім спакойна пачувацца сталі. Хадзілі ў калгас, адзначалі не толькі рэлігійныя святы, а і савецкія, калгасныя зажынкі, дажынкі, дакопкі — усе разам збіраліся, гулялі, забаўляліся, песні спявалі, танцавалі. Адным словам, жыццё ўвайшло хоць і ў новую, але ў сваю каляіну. Па каляіне той і каціліся звыклыя калгасныя будні. Хутаране не перасталі быць хутаранамі. А з новымі абставінамі звыкліся. Ды на табе — збірай манаткі і прыся да новай хаткі…



## Валянціна ЕРАФЕЕВА-ЦВЯРСКАЯ

**Валянціна Ерафеева-Цвярская — сакратар праўлення Саюза пісьменнікаў Расіі і Асацыяцыі пісьменнікаў Урала. Старшыня праўлення Омскай арганізацыі СПР. Член-карэспандэнт Акадэміі паэзіі. Лаўрэат шматлікіх прэмій імя Д. Н. Маміна-Сібірака, Л. Н. Мартынава, П. П. Яршова, В. А. Макарава. Аўтар шасці кніг паэзіі. Суаўтар некалькіх музычных стужак «Сугучча нот і слоў». Па-беларуску вершы Валянціны Ерафеевай-Цвярской перастварыла паэтэса, сябар СПБ Іна Фралова.**

***

*Скупая запаведзь вакзалаў:*
*Расстанні, стрэчы, цягнікі...*
*Чужыя твары ў сумных залах.*
*Сляпыя — процьма — скразнякі.*

*А для мяне вакзал — як свята,*
*Сустрэчы абяцае зноў,*
*Як лугавая ўлетку мята,*
*Вяртаннем бударажыць кроў.*

*Абняць свой горад спее цяга —*
*Чакае ён на Іртышы.*
*Пякельная вандроўнак прага, —*
*Як лад жыцця, як стан душы!*

***

*Як Омску — Іртыша вада,*
*Так мне — ад нараджэння спадчына:*
*Уразумець — я не мадам,*
*Мне быць спадарыняй прызначана!*

***

*Пра дабрыню*
*Не трэба забываць,*
*Хаця прыстойнасць*
*Сёння і не ў модзе.*
*«Старым» быць «рускім» —*
*Значыць жабраваць,*
*Але ж багатым духам —*
*Па прыродзе!*

***

*З вачэй па кропельцы сцякае гора,*
*А што ёсць слёзы? — слёзы ёсць вада.*
*Зноў на платах сарокі, як учора,*
*Паднялі крык: «Бяда, бяда, бяда»…*

*Прапіску даць бядзе ў маёй трушчобе,*
*Паіць, карміць, шчэ песціць ды любіць?*
*Бядзе прывольна, так жыццё аздобіць,*
*Хто ж не захоча бестурботна жыць?!*
*Адкрыю вокны, расчыню ўсе дзверы,*
*Хай праймуць нэндзу ў хаце скразнякі.*
*Раней залётным не давала веры,*
*А зараз мне вятры — што сваякі!*
*Спалохаўшыся ветру і прастуды,*
*Бяда зляціць за трыдзевяць зямель…*
*У выветранай хаце шчасцю будзе*
*Прасцей зафрахтаваць свой карабель.*

*Ад слёз гарачых мокрая падлога,*
*Ды адчыняе фортачку скразняк:*
*Трапечуць ветразі! За намі перамога!*
*І шчасцю цвёрда прамаўляю: «Так!»*

***

*Шэрай гускай сум брыдзе*
*Каля Омкі-рэчкі.*
*Хмаркі тонуць у вадзе,*
*Быццам квет парэчкі.*
*Хай нясе тугу вадой*
*Да сівога мора.*
*Размінуся я з бядой,*
*Размінуся з горам!*
*Усміхнуся, заспяю:*
*«...Доля, мая доля...»*
*Дзіўна, ў горадзе стаю,*
*Быццам сярод поля.*

***

*За вокнамі цярушыць дробны дождж,*
*А мне да раніцы сягоння штосьць*
*не спіцца.*
*Гляджу, як вецер скача басанож*
*Ды лашчыць на таполях завушніцы.*

*Пасля крылом якую ахіне,*
*Шапоча нешта ціха і шчымліва.*
*А можа, й мне пад дожджык па вясне*
*Стаць, як таполя, — свежай*
*і шчаслівай?!*

***

*Зрабіўся мне няўтульным дом.*
*І душаць сціşанасцю сцены.*
*Ды, веру, будзе пералом —*
*З каханнем новым прыйдуць змены.*
*Пачуцце, быццам першы снег,*
*Настрой асветліць непагодны.*
*Ну дзе ты, дзе ты, чалавек,*
*Доўгачаканы, неабходны?!*

***

Памяці Аркадзя Куцілава

*Замоўкні, зорка, не наклікай бяды,*
*Святло дайшло, а ты даўно астыла.*
*Крыло завей, нібыта шызы дым,*
*Дамы, масты і лужыны накрыла.*
*Ад мігацення неспакойна ноч.*
*І кружаць сны, ахутаныя белым.*
*Бальшак мінаючы, трымаецца наўзбоч*
*Нябога-ветах з ветру заінелы.*
*А там, за гэтай рамачнай мяжой,*
*Чароўны свет, з ім сэрца хоча зліцца,*
*Пасляць надзею зорцы маладой*
*І перад свечкай Богу памаліцца.*

***

*Ноч.*
*Ліпень чэргне.*
*Летняе раздолле.*
*І зоркам спець*
*ужо*
*прыйшла пара.*
*Ступіць на неба,*
*быццам выйсці*
*ў поле,*
*Каб зорныя*
*клубніцы*
*пазбіраць.*

***

*Абмяняла пяро на пэндзаль*
*Ды шчырую над палатном!*
*Разам з містыкай ява-нэндза*
*Зацягнулі хвасты вузлом.*
*Час прыйшоў гатаваць вячэру*
*І чакае руплівых рук*
*З учарашняга дня кватэра,*
*Але краскамі вабіць луг...*
*У цішы ажылі вывы:*
*Просты песняй журчыць рака,*
*Дрэмле лодка ля пераправы...*
*І ад стомы дрыжыць рука.*
*Фарбы лёгка кладуцца, роўна,*
*Бы народжаная страфа!*
*Як натхненне знайсці цудоўна...*

*...з чым рыфмуецца сінява?*

***

*Ужо вадасцёк далдоніць.*
*Няўжо адчуў дакрананне*
*Вясны, што нясе ў далонях*
*Натхненне, цяпло, каханне?!*

***

*Што ў маёй, а што ў Гасподняй волі?*
*На вятрах азяблая душа*
*Горка плача. У жаночай долі —*
*Мацярынскі смутак ды імжа.*
*Сэрца б'ецца. Я пад ім насіла*
*І чакала з вераю дзіця.*
*Ці ж у Бога мала я прасіла*
*Долю не такую, як мая?*
*Хіба маці кепскага жадае,*
*Нават як ірве душу адчай?*
*Я сама пакуль што маладая,*
*Каб адважна секануць з пляча!*
*Мне самой — зусім крыху за сорак,*
*Ох, зарана шчэ гады лічыць!*
*Ўсё аддам, каб прамінула гора,*
*Каб сваю крывінку ўберагчы.*
*Божа мой! Вятрам, бярозам, полю*
*Свой адплачу, адкрычу наказ —*
*Пашкадуйце бабы рускай долю,*
*Пашкадуйце... Ёй трымаць адказ*
*За дзіця, адзінае на свеце,*
*За якое сэрцам адбаліць,*
*Ўсё адмоліць...*
*А марозны вецер*
*Будзе злыбядой душу бяліць.*

***

*Мая туга не ў меру гордая,*
*Неразгаданая туга.*
*Прытомленыя дахі горбяцца,*
*Дзе зорку хутае смуга.*
*Вазьмі яе ў далоні — колецца,*
*Хітрынкай свеціцца ў начы.*
*А за далёкаю ваколіцай*
*У асалодзе лес маўчыць.*
*Журба чакае за варотамі...*
*Ці, можа, дзень прайшоў не так?!*
*Туга — тугой, журба — журботамі.*
*А зорка —*
*Як нябесны знак.*

**З рускай.**
**Пераклала Іна ФРАЛОВА**



## Саак АНТАНЕСЯН

# Жыцця закон і вечнасці высновы

**Паэт і мастак Саак Антанесян, ураджэнец Арменіі (Ларыйская вобласць, г. Алаверды), цяпер жыве ў Мінску. Доктар эталогіі, прафесар, старшыня дабрачыннага савета Міжнароднай Акадэміі экалогіі, мастацтва і архітэктуры, прэзідэнт кампаніі *Uniecofor LLC*. Аўтар зборнікаў паэзіі «Лабірынт» і «Калі я адзін…». Займаецца арганізацыяй выставак аматарскай мастацкай творчасці ў Беларусі і Ерэване, актыўна прапагандуе беларускую нацыянальную культуру ў Арменіі. Прапануем увазе чытачоў «ЛіМа» вершы Саака Антанесяна, пераствораныя па-беларуску паэтам і перакладчыкам Казімірам Камейшам.**

***

*Даруй мне, чалавек,*
*Я зноў цябе дапёк, магчыма,*
*І словамі, і думкамі сваімі.*

*Даруй мне, чалавек,*
*Даруй мне, чалавек,*
*Што я знарок, на зло табе нібыта,*
*Вяртаю тое, што даўно табой забыта.*
*Даруй мне, чалавек.*

*Даруй мне, чалавек,*
*Што я сказаць сабе дазволіў*
*Усё, што іншыя не скажуць аніколі.*
*Даруй мне, чалавек.*

*Даруй мне, чалавек,*
*Што смутку я ў твой смутак дабаўляю.*
*То да сябе хіну, то раптам аддаляю.*
*Даруй мне, чалавек.*
*Што неспадзеў, аднойчы,*
*На ўсё, дзе ты быў слеп,*
*Тваё адплюшчыў вочы,*
*Даруй мне, чалавек.*

*Даруй мне, чалавек,*
*Што болю даўняму*
*Яшчэ дадаў я болю.*
*І хопіць. Нам яго не трэба болей…*
*Даруй мне, чалавек!..*

***

*Я чалавек…*
*Вельмі складаны,*
*Грахі свае лічу, заганы.*
*Прайшоў праз смеласць,*
*Прайшоў праз страх.*
*Зусім не просты жыцця майго шлях.*
*І зла і дабра мне хапала даволі.*
*З дабром я дабрэў,*
*А са злом я злаваўся.*
*Нідзе нікога не крыўдзіў ніколі,*
*Якім быў,*
*Такім і застаўся —*
*Змагаюся за дабро!..*

***

*Даўно са смерцю ў хованкі гуляю,*
*Яна ўсе знае выхадкі мае.*
*Яна за мной бяжыць і даганяе,*
*А я хітрэйшы, мабыць, ад яе.*

*Яна за мной па долах і краінах,*
*Як даўні цень, маркотліва снуе.*
*Яна вось-вось дагнаць мяне павінна,*
*Ды я хітрэйшы, мабыць, ад яе.*

*З'яўляецца яна і зноў знікае,*
*А я сустрэчы з ёю не жадзён.*
*Я проста страх, як нарасць, адсякаю.*
*Перамагае ўсё ж яно, жыццё…*

***

*А жыццё прабегла неўпрыкмет,*
*Прыгарнуць і бацька не паспеў.*
*Ён пакінуў рана гэты свет,*
*Ды прылашчыць сына так хацеў.*

*Ён суровым быў, як чорны птах,*
*А ўсіх нас пяшчотай ахіліў.*
*Птушкай я ў жыцці хацеў лятаць,*
*А хаджу марудна па зямлі.*

*Бацька адышоў. А я адзін*
*Буду дзень свой новы сустракаць.*
*Што мне заўтра скажа родны сын?*
*Трэба мне да заўтра пачакаць.*

***

*Што было і ёсць — усё мінае.*
*За зімой чакаеш зноў вясну.*
*Толькі як сябе пераканаеш —*
*Тое, што ўжо страціў, — не вярнуць?!*

*Ён, жыцця закон, заўжды суровы:*
*Як бы ні стараўся чалавек,*
*Што было — не паўтарыць нанова,*
*Новае сваім жыццём жыве.*

***

*Ідзеш, пакуль кліча дарога,*
*Пакуль самі ногі ідуць.*
*Не ведаюць ногі знямогі.*
*І век мой бясконцым завуць.*

*Нідзе не стамляўся ніколі,*
*За мараю ўподбег ідзеш,*
*І сэрца не хоча спакою,*
*І боль твой не ведае меж.*

***

*Як проста плакаць, калі слёз*
*Не разумеюць самі вочы.*
*Як цяжка боль перамагаць,*
*Дзе хворы сам таго не хоча.*

*Як проста часам захварэць,*
*Калі нідзе ніякіх лекаў.*
*Як цяжка дараваць таму,*
*Хто вечна крыўдзіць чалавека.*

**З армянскай.**
**Пераклаў Казімір КАМЕЙША**

*Супрацоўніцтва*

# Літаратура без межаў

**У Маскве, у Дзелавым і культурным комплексе Пасольства Рэспублікі Беларусь у Расійскай Федэрацыі, прайшоў «круглы стол» «Беларуская літаратура ў Расіі: сёння і заўтра». Арганізатары шматабсяжнай і няпростай размовы — Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, Саюз пісьменнікаў Беларусі, Выдавецкі дом «Звязда». Да ўдзелу ў беларуска-расійскім дыялогу на вартую ўвагі тэму спрычыніліся самыя розныя асобы. З вітальнымі словамі да ўдзельнікаў размовы звярнуліся міністр інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч, спецыяльны прадстаўнік па міжнародным культурным супрацоўніцтве пры Прэзідэнце Расіі Міхаіл Швыдкой, выканаўчы дырэктар Міжнароднага фонду гуманітарнага супрацоўніцтва Анатоль Іксанаў. Было агучана і вітанне ад старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалая Чаргінца.**

Закраналіся пытанні традыцый і перспектыў літаратурнага супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Расіяй. Цікавымі сталіся выступленні дырэктара выдавецтва «Мастацкая літаратура» Алеся Бадака, дырэктара выдавецтва «Художественная литература» Георгія Прахіна, галоўнага рэдактара «Роман-газеты» Юрыя Казлова, члена Саюза пісьменнікаў Расіі Валерыя Казлова, які прыкладае шмат намаганняў для развіцця партнёрскіх сувязей паміж пісьменнікамі Саюзнай дзяржавы. Яўген Шышкін, які часта друкуецца ў Беларусі, распавёў пра досвед часопіса «Наш современник» па прадстаўленні беларускай літаратуры ў Расіі. Вялася размова па праблемах мастацкага перакладу. Сёння ў Маскве цяжка знайсці ініцыятыўныя сілы, якія б уважліва сачылі за беларускай літаратурай. Хаця, калі гаварыць не пра выдавецтвы, а пра перыядычныя выданні, то аўтары з Беларусі шырока друкуюцца ў часопісах ў Маскве, Санкт-Пецярбургу, іншых рэгіёнах РФ. І, у прыватнасці, тыя з беларускіх аўтараў, якія пішуць на рускай мове альбо прапануюць пераклады, зробленыя ў Беларусі. Хацелася б такой жа ўвагі ад расійскіх выдавецтваў.

Падчас «круглага стала» была прэзентавана кніга вершаў народнага пісьменніка Удмурціі Вячаслава Ар-Сяргі «Ранішні вецер у акне», якая пабачыла свет па-беларуску ў Выдавецкім доме «Звязда». Перакладчык — Віктар Гардзей. Кнігай распачата серыя «Сябрына: паэзія народаў Расіі». Выдаўцы спадзяюцца, што далей у гэтай серыі выйдуць кнігі вершаў і паэм паэтаў Чачні, Татарстана, Калмыкіі, Башкартастана, Чувашыі, Якуціі ды іншых куткоў Расіі. Для арганізацыі работы ў гэтым кірунку створаны міжнародны рэдакцыйны савет, куды поруч з прадстаўнікамі Беларусі (на чале са старшынёю СПБ Мікалаем Чаргінцом) увайшлі паэты, літаратуразнаўцы з Расіі: Валерый Казакоў, Лула Куні, Казбек Султанаў, Роберт Мінулін, Атнер Хузангай. А яшчэ — кіраўнік Асамблеі народаў Расіі Святлана Смірнова і старшыня ФНКА «Беларусы Расіі» Сяргей Кандыбовіч.

Беларуска-расійскія літаратурныя сувязі, нягледзячы на шматгранную дзейнасць саміх літаратараў Беларусі, патрабуюць актыўнай дзяржаўнай падтрымкі. А таксама — падтрымкі з боку няўрадавых арганізацый. Сёння, калі свет знаходзіцца ва ўмовах супрацьстаяння вайны і міру, мастацкае слова магло б зрабіць дастаткова шмат у справе яднання народаў, у раскрыцці гуманістычных памкненняў насельнікаў розных дзяржаў, розных краін.

**Сяргей ШЫЧКО,**
**Расія, г. Масква.**

*У пісьменніцкім асяродку*

# Радком сучасніка і класіка

Свята паэзіі «Я помню дзіўнае імгненне» каля помніка класіку рускай і сусветнай паэзіі А. С. Пушкіну ў 217-ы дзень яго нараджэння зладзілі Мінскае гарадское аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі, навукова-асветніцкі цэнтр «Рассупрацоўніцтва» пры пасольстве Расійскай Федэрацыі і грамадская арганізацыя «Наша Русь». Да прыхільнікаў мастацкага слова звярнуліся галоўны спецыяліст Прадстаўніцтва Рассупрацоўніцтва ў Рэспубліцы Беларусь Наталля Ігнацьева і вядучы свята — старшыня МГА СПБ, паэт Міхась Пазнякоў. Публіка пачула лірычныя радкі ў аўтарскім выкананні Анатоля Аўруціна, Навума Гальпяровіча, Валянціны Паліканінай, Вадзіма Спрынчана ды іншых айчынных паэтаў. Вершы дэкламавалі настаўнікі і вучні СШ №№ 218 і 36 г. Мінска. Прагучала паэзія А. С. Пушкіна ў арыгінале і ў перакладзе на беларускую, а таксама прысвечаныя класіку творы.



Фота Алеся Каранеўскага.

Іна Саніна чытае вершы.

Пісьменніца Іна Саніна (Маіна Арцішэўская-Ерусалімчык) родам з Беларусі, але ўжо амаль чатыры дзясяткі гадоў жыве ў амерыканскім горадзе Лос-Анджэлесе. І актыўна прапагандуе сучасную беларускую літаратуру! Днямі творца наведала літаратурны клуб «Парнас» пры сталічнай публічнай бібліятэцы № 5, каб у чарговы раз сустрэцца з беларускімі чытачамі.

Рускі літаратурны клуб у Лос-Анджэлесе, «Международный альманах поэзии» — вось яно, тое асяроддзе, тое творчае паветра, якім наталяецца тонкая лірычная душа Іны Санінай. «Але і за мяжой я застаюся шчыра аддана́й роднаму краю», — падкрэслівае творца.

У межах клубнай сустрэчы Іна Саніна прэзентавала свой новы зборнік эсэ «Судакрананне»: у артыкулах, якія ўвайшлі ў яго (а гэтыя артыкулы аўтарка пісала яшчэ з 80-х гадоў мінулага стагоддзя), яна нібыта судакранаецца з няпростымі лёсамі герояў — настолькі глыбока прачулы ёю кожны вобраз! «Художник — одинокая свеча / Средь мелочных и суетных стремлений…» Так, ёсць у кнізе Іны Санінай артыкулы, прысвечаныя мастакам. Ды і не толькі…

Паэтычныя радкі Іны Санінай прасякнуты на дзіва моцнай энергетыкай — пэўна, далёка ад Бацькаўшчыны повязі з радзімным толькі мацнеюць. «Уже зардеся утренний рассвет, / И, ночи одолев сопротивленье, / Заря земле шлёт ласковый привет, / Лучами тёплыми играя на свирели…» Гэта гучыць як мелодыя — мелодыя найтанчэйшай сардэчнай струны.

Гасцямі чарговай імпрэзы ў літаратурным клубе «Шчырасць» пры сталічнай публічнай бібліятэцы № 22 сталі маладыя паэтэсы Марына Пашук (Наследнікава) і Кацярына Роўда, дэбютныя зборнікі якіх пабачылі свет у межах кніжнай серыі МГА СПБ «Мінскія маладыя галасы». Пра гэта рэдакцыя «ЛіМа» даведалася ад загадчыка кніжніцы Наталлі Ярашэвіч.

Прадставіў творцаў кіраўнік клуба, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў. Марына Пашук (Наследнікава) прэзентавала сваю кнігу паэзіі «Шлях у Нябёсы». Слухачы пачулі песню на верш паэтэсы «Водгук» у выкананні праваслаўнага кампазітара, паэта, кіраўніка дзіцячай вакальнай студыі «Радасць мая» Вячаслава Бабкова. Марына — пераможца шматлікіх паэтычных конкурсаў, стыпендыят спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі. Яе вершы пабуджаюць да роздуму пра Вечнае, дапамагаюць знайсці адказы на важныя жыццёвыя пытанні: як пераадолець сябе, жыць у гармоніі з Богам і блізкімі.

Другая маладая паэтэса, Кацярына Роўда, другакурсніцай Белдзяржуніверсітэта пачала працаваць у Фундаментальнай бібліятэцы БДУ. «Водар белага наліву» — так называецца першы паэтычны зборнік Кацярыны. У яе вершах пра маці, бабулю, дзядулю, дачушку і сына — душэўная цеплыня, светлая рамантыка. Ёсць у Кацярыны Роўда і пейзажная лірыка.

На апошняе ў гэтым сезоне пасяджэнне клуба творчых жанчын «Спадарыня» (кіраўнік — пісьменніца Тамара Бунта) у сталічную публічную бібліятэку № 5 завіталі дырэктар радыё «Мінская хваля», паэтэса Тамара Вяцкая і майстар мастацкага чытання Святлана Яфрэмава.

Святлана Барысаўна прыгадала сваё дзяцінства, якое прайшло ў Гарадку, на Віцебшчыне, а таксама час, калі жыла і працавала на Дзяржынскім раёне і наведвала дзяржынскі літаратурны клуб «Выток». І хоць з юнацтва больш за ўсё яна любіць класічную паэзію, з цікавасцю ставіцца і да сучаснай жаночай лірыкі. «Глыбока кранулі душу творы паэтэс Тамары Вяцкай, Жанны Мілановіч, Алы Чорнай, Лізаветы Палеес, Тамары Залескай», — прызналася Святлана Яфрэмава. А потым па-майстэрску прадэкламавала вершы.

Адметнай атрымалася і музычная частка вечарыны — дзякуючы паэтэсам і бардам Ганне Чумаковай і Аліне Легастаевай. А падчас «паэтычнай пераклічкі» свае вершы прадставілі Яна Явіч, Наталля Капа ды іншыя сябры клуба «Спадарыня». Дарэчы, творчыя сустрэчы ў межах суполкі працягнуцца з верасня.

**Дзіна ДОЛЬСКАЯ**

### Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:

**10 чэрвеня** — *на свята дзіцячай кнігі «Падарожжа ў свет прыгодаў» у дзіцячую бібліятэку № 15 (вул. Слабадская, 27). Пачатак а 11-й гадзіне.*

**10 чэрвеня** — *на свята дзіцячай кнігі і песні «Чароўны свет маленства» ў публічную бібліятэку № 13 (вул. Народная, 43а). Пачатак у 11.30.*

**10 чэрвеня** — *на літаратурна-мастацкую імпрэзу, прысвечаную адкрыццю выстаўкі фотамастака Міхаіла Крыжаноўскага «Эпоха Агінскага: узнаўленне памяці» ў дзіцячую бібліятэку № 5 (вул. Русіянава, 48). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**12 чэрвеня** — *на творчую сустрэчу з групай паэтаў у Ваеннай акадэміі Рэспублікі Беларусь (пр-т Незалежнасці, 220). Пачатак а 11-й гадзіне.*

**13 чэрвеня** — *на прэзентацыю кнігі пісьменніцы Яны Явіч «Самыя кветкавыя сны» ў дзіцячую бібліятэку № 15 (вул. Слабадская, 27). Пачатак а 11-й гадзіне.*

**13 чэрвеня** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікам, старшынёй Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхасём Пазняковым у СШ № 6 г. Рагачова (вул. Саннікава, 99). Пачатак а 11-й гадзіне.*

**14 чэрвеня** — *на свята дзіцячай кнігі «Адпачываем разам з добрай кнігай» у публічную бібліятэку № 13 (вул. Народная, 43а) з удзелам пісьменніцы Тамары Бунта. Пачатак а 10-й гадзіне.*

**14 чэрвеня** — *на свята дзіцячай кнігі «Святло дабрыні» ў публічную бібліятэку №13 (вул. Народная, 43а) з удзелам пісьменніка Міхася Пазнякова. Пачатак у 11.30.*

**16 чэрвеня** — *на свята дзіцячай кнігі «Дзівоснае вакол нас» у публічную бібліятэку № 7 імя Якуба Коласа (вул. Пляханава, 97/4). Пачатак а 11-й гадзіне.*

### Мінскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**14 чэрвеня** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікам Сяргеем Клімковічам у Ждановіцкую сельскую бібліятэку (Ждановічы, вул. Лінейная, 8Б). Пачатак а 12-й гадзіне.*

**16 чэрвеня** — *на творчую сустрэчу навучэнцаў Міншчыны з празаікамі аддзялення ў школе «Со-творчество» (г. Мінск, пл.Свабоды, 13, актавая зала). Пачатак у 11.00.*

### Віцебскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**13 чэрвеня** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікамі Галінай і Сяргеем Трафімавымі «Тайнае і загадкавае са свету прыроды» ў бібліятэку імя У. Корбана (г. Орша, вул Задняпроўская, 8). Пачатак у 11.00.*

**15 чэрвеня** — *на літаратурны вечар «У пачуццях лірычнай аддана́сці» з удзелам паэтаў Мікалая Балдоўскага, Пятра Буганава і Галіны Загурскай у малую залу кінатэатра «Радзіма» (г. Полацк, вул. Свярдлова, 5). Пачатак у 18.00.*

**15 чэрвеня** — *на гадзіну дзівосных адкрыццяў «Вакол свету па старонках кніг Галіны і Сяргея Трафімавых» у дзіцячую бібліятэку імя У. Караткевіча (г. Орша, вул. Леніна, 6). Пачатак у 11.00.*

## Ідзе падпіска на ІІ паўгоддзе

| «ЛіМ» | 1 месяц | 1 месяц (у новых цэнах) | Падпісны індэкс |
|---|---|---|---|
| *Для індывідуальных падпісчыкаў* | **37 400 руб.** | **3,74 руб.** | 63856 |
| *Ведамасная падпіска* | **104 000 руб.** | **10,40 руб.** | 638562 |
| *Індывідуальная льготная падпіска для настаўнікаў* | **23 900 руб.** | **2,39 руб.** | 63815 |
| *Льготная падпіска для ўстаноў культуры і адукацыі* | **78 600 руб.** | **7,80 руб.** | 63880 |

# ЛЕТА СТАРТУЕ З АРТ-ПРАЕКТАМІ

**У першыя летнія дні можна акунуцца ў кругаварот цікавых, насычаных падзей, каб адчуць хвалю пазітыву. Музеі і мастацкія галерэі сталіцы запрашаюць на выставачныя праекты, падрыхтаваныя як айчыннымі, так і замежнымі творцамі. Карэспандэнты «ЛіМа» прапануюць падборку новых арыгінальных праектаў.**

## НАЦЫЯНАЛЬНЫ ЦЭНТР СУЧАСНЫХ МАСТАЦТВАЎ *(пр. Незалежнасці, 47)*

1 Выстаўка плаката Рышарда Каі «Плакаты вельмі польскія» — своеасаблівы летапіс плакатнага мастацтва. Некаторым экспанатам, прадстаўленым у экспазіцыі, больш за паўстагоддзя. Аўтар выстаўкі паглыбляе гледача ў падзеі польскай гісторыі, да якой ставіцца вельмі сур'ёзна. Ён дэманструе майстэрства плаката як сумленную прапаганду ідэй, якая з цягам часу не страціла пазіцый.




Выстаўка выканана ў храналагічнай паслядоўнасці. Адрозненні ў тэндэнцыях і зменах польскага плаката заўважаеш не адразу. Але, угледзеўшыся, разумееш, што бліжэй да сучаснасці плакаты больш завуаляваныя, з інтрыгай. Кожная работа Рышарда Каі нясе пэўны сімвал. Гэта можа быць плямістая саламандра, цёмна-жоўтыя адценні якой становяцца сімвалам выбару, альбо істота, падобная да пузатага жука, што беспярэпынку паўзе наперад.

Аўтар не паддаецца сучасным мастацкім плыням. Захоўвае ўнутраную эстэтыку, падмацаваную мінімалістычным стылем. Кліенты плакатыста, якія жадаюць неяк змяніць аўтарскую канцэпцыю, могуць у выніку застацца без заказу. Бо калі майстар бярэцца за справу, то напачатку разумее, як тэма плаката па-мастацку зачэпіць публіку.

## РЭСПУБЛІКАНСКАЯ МАСТАЦКАЯ ГАЛЕРЭЯ БЕЛАРУСКАГА САЮЗА МАСТАКОЎ *(уваход з правага боку)*

2 Містычны настрой і ўльтрафіялетавае свячэнне ў цёмным пакоі. Каго інтрыгуе такое спалучэнне, той смела можа адправіцца на флюарэсцэнтную выстаўку арт-інсталяцый «Нітка». У аснове экспазіцыі — арыгінальныя пано, вышытыя рознакаляровымі ніткамі піраміды і сеткі. У цемры яны, здаецца, нібы лётаюць у прасторы, бо цёмны колер кардону, на якім аўтары стваралі свае творы, зліваецца з цемрай. Фантастыка, і толькі!



Некаторыя вышыўкі нагадваюць нацыянальныя арнаменты, толькі адценні адрозніваюцца. Аўтарскія творы перамяжоўваюцца з нацягнутымі вакол ніткамі, якія з кожнага боку адсвечваюць светла-зялёным колерам, і тут заўважаеш, што апынуўся ў лабірынце мастацтва, знайсці выхад з якога атрымаецца толькі пасля прагляду ўсіх работ. Дзіўна, але атмасфера таямнічасці дапамагае больш уважліва ставіцца да экспанатаў, разглядзець іх дасканала, не прапусціўшы ніводнай дэталі. Цемра не дазваляе гледачу адцягвацца на іншыя рэчы, а канцэнтруе ўвагу. Патрапіўшы на выстаўку ў пятніцу альбо суботу, наведвальнікі будуць разглядаць аб'ёмна-прасторавыя кампазіцыі пад жывую музыку ў выкананні сучасных музычных калектываў.

## НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГІСТАРЫЧНЫ МУЗЕЙ

3 Старажытнае, беларускае, тое, што прыйшло ад прадзедаў, нязведанае і прыцягальнае. Каларытныя, насычаныя, памерам амаль у метр вышынёй фатаграфіі Марыны Бацюковай размясціліся ва ўнутраным дворыку музея — яны ўпісаны ў цагляныя сцены будынкаў, месцяцца на вокнах і каля лавак, на варотах і рашотках. Арт-праект «Стары новы двор» адраджаецца, напаўняючыся новым сэнсам. Гэта дзіўнае па сіле ўздзеяння спалучэнне архітэктурнай фактуры, гарадской прасторы і мастацтва. Тэмай стаў вясковы абрад «Ваджэнне і пахаванне стралы». Адсюль і назва экспазіцыі — «Сула. Непарыўнае». Абрад звязаны з сустрэчай лета, зямлёй і ўраджаем, накіраваны на ўтаймоўванне прыродных стыхій, а менавіта маланак. Свята праходзіць нязменна ўжо не адно пакаленне. Галоўныя героі на фота — вясковыя тыпажы, бабулі і дзяўчаты. Яны спяваюць і танчаць у траве, ляжаць на санцапёку, водзяць карагоды і спяваюць, «лунаюць» у жыце, ткуць і вышываюць, закопваюць у зямлю тую самую Сулу, цёмную сілу, разбурэнне, якое павінна ператварыцца ў дабрабыт. Пярэстая паўсядзённасць вясковага жыцця. Сувязь традыцый і сучаснасці. Стагадовыя сандалі і ровары. Хлебны водар і сляды ад машын на асфальце…



Чаму здымкі «выйшлі» на вуліцу? Як і ў абрадзе, тут патрэбен эфект прысутнасці, дачынення гледачоў, абвастрэнне дакументальнасці. Фатограф даследавала жыццё маленькіх вёсак Неглюбка і Стаўбун Гомельскай вобласці. Творца любіць вывучаць псіхалогію і фальклор, адносіны паміж людзьмі, іх становішча ў грамадстве.

Дарэчы, абрад «Ваджэнне і пахаванне стралы» ўключаны ў Дзяржаўны спіс нематэрыяльнага праяўлення творчасці чалавека і з'яўляецца нематэрыяльнай гісторыка-культурнай каштоўнасцю Беларусі.

## НАЦЫЯНАЛЬНЫ ГІСТАРЫЧНЫ МУЗЕЙ

4 Ведаеце, што такое ўстойлівая ідэнтычнасць? Выстаўка шведскай мастачкі Людмілы Хрысцесевай з філасофскай назвай-адказам «*Sustainidentity*» распавядае пра лёс адной жанчыны-мастака і прыроду жаночай сутнасці ў цэлым. Адразу вызначымся: гэта не рэалізм, а вольны роздум. Нездарма ў рамках экспазіцыі праводзіліся дыскусіі. Людміла Хрысцесева закраналася рэтраспектывай, аналізуючы мінулае, як бы распавядае пра сябе і адначасова прапануе падумаць пра тое, як любая жанчына, скажам, з Усходняй Еўропы ўпісваецца ў заходнееўрапейскае феміністычнае таварыства. Гэта датычыць любога раскладу ў змене краін.



А цяпер разабраліся. «*Sustainidentity*» кажа нам менавіта пра гендарную ідэнтычнасць, стаўленне да жанчын у розных народаў, аналізуе ўвогуле з'яву жаноцкасці, якая ці то ад нараджэння, ці то прыходзіць з часам. Самі работы — камбінацыя палотнаў з акрылу, кампазіцый з тканіны, фотаздымкаў і прадметаў.

Лёс мастачкі цікавы. Людміла Хрысцесева скончыла Віцебскі дзяржаўны тэхналагічны ўніверсітэт па спецыяльнасці «Дызайн касцюма і тканін», а потым з'ехала ў Швецыю, дзе стала супрацоўнічаць са знакамітым шведскім мадэльерам Ларсам Валіні. Гендарная тэматыка стала лейтматывам яе творчасці на доўгія гады.

Выстаўка пабывала і ў іншых гарадах, яна мабільная і кожны раз у працэсе жывых зносін узбагачаецца новымі падрабязнасцямі. Гэта як гімн збаўленню ад стэрэатыпаў і застылых форм. Экспазіцыя, між іншым, ладзіцца ў межах Дзён культуры Швецыі ў нашай краіне.

## КІНАТЭАТР «ЦЭНТРАЛЬНЫ»

5 У людзей з багатай фантазіяй заўсёды ёсць свой «лабірынт Фаўна», месца для падарожжаў паміж сном і рэальнасцю, казачнай дрымоты. Там час запавольвае бег, там крыніца душэўных сіл... Пра гэта — выстаўка расійскага фатографа Юліі Новікавай *(Julia Blueberry)* пад сімвалічнай назвай «Калі гадзіны спыніліся...». На здымках — далікатныя паненкі ў лёгкіх сукенках. Азёрныя німфы, горныя прынцэсы, каралевы палёў і лясныя феі. Ніякага пафасу, усё вытанчана, стрымана, але ў той жа час горача, з хваляваннем. Юлія Новікава расла побач з прыродай, удалечыні ад шумных гарадоў і вар'яцкай мітусні пыльных вуліц, крам, машын. У яе работах усё першароднае, яе творы як сінонім гармоніі. У экспазіцыю ўвайшлі 25 фатаграфій, якія пасвядома прыцягваюць атмасферу казак братоў Грым, фільмаў Альмадовара і карцін Васняцова. Ода натуральнасці і жаноцкасці. Магія атмасферы. Мастацтва.



Марыя ВОЙЦІК, Вікторыя АСКЕРА

# Нязгасная энергія

## сілкуе Аляксандра Яфрэмава ў творчасці і жыцці



*На творчым вечары — з Ядвігай Паплаўскай і Аляксандрам Ціхановічам.*

**Каля 20 фільмаў — ігравых і тэлесерыялаў (і працягвае здымаць), каля 10 тэатральных пастановак, а яшчэ ёсць актыўная адміністрацыйная праца пры адказных пасадах… Можна дзівіцца, як гэта ўсё атрымліваецца сумяшчаць. Але няма нічога немагчымага для народнага артыста Беларусі Аляксандра Яфрэмава.**

### ЗАПРАШЭННЕ ТУРАВА

Сёлета рэжысёр тэатра і кіно, акцёр, сцэнарыст, заслужаны дзеяч мастацтваў Рэспублікі Беларусь адзначыў 65-годдзе. З нагоды свята ў Тэатры-студыі кінаакцёра, мастацкім кіраўніком якога і з'яўляецца Аляксандр Васільевіч, адбыўся юбілейны творчы вечар рэжысёра, якога лёс прывёў у Беларусь. Але ў жыцці няма нічога выпадковага.

Аляксандр Яфрэмаў нарадзіўся ў горадзе Горкім (сёння Ніжні Ноўгарад). Атрымаў адукацыю ў Горкаўскім тэатральным вучылішчы на акцёрскім факультэце. Правучыўшыся год, зразумеў, што акцёр — дастаткова залежная прафесія, а творцу хацелася самастойнасці. У 1976 годзе скончыў рэжысёрскі факультэт Усерасійскага дзяржаўнага інстытута кінематаграфіі (майстэрню кінарэжысёра, народнага артыста СССР Аляксандра Столпера), куды паступаў разам з вядомым савецкім, расійскім акцёрам тэатра і кіно, кінарэжысёрам Аляксандрам Панкратавым-Чорным. Паступіць было складана. Каля двухсот чалавек прэтэндавалі на адно месца, але Аляксандр Яфрэмаў вырашыў: пакуль не паставяць двойку, будзе спрабаваць. У выніку толькі двое з тых, хто паступаў, атрымалі пяцёркі, у тым ліку — і будучы народны артыст Беларусі Аляксандр Яфрэмаў. Пасля заканчэння інстытута беларускі кінарэжысёр Віктар Тураў запрасіў творцу паспрабаваць сябе ў якасці рэжысёра на кінастудыі «Беларусьфільм».

Тут і была знята першая кінакарціна Аляксандра Яфрэмава «Вялікае каханне М. П. Чараднічэнкі» (увайшла як адна з навел у фільм «У профіль і анфас» паводле апавяданняў Васілія Шукшына) з акцёрам Аляксандрам Калягіным у галоўнай ролі. Карціна была адзначана прызам «За лепшую рэжысуру» на Усесаюзным кінафестывалі «Маладосць-77». Так пачалося станаўленне прафесійнага шляху Аляксандра Яфрэмава ў Мінску, дзе цяпер ён карыстаецца вялікай павагай сярод калег і гледачоў.

### АДЗНАКІ І ПАДАРУНКІ

Сёння рэжысёр, акрамя таго, што працуе мастацкім кіраўніком Тэатра-студыі кінаакцёра Нацыянальнай кінастудыі «Беларусьфільм», з'яўляецца прафесарам Беларускай акадэміі мастацтваў і членам Беларускага саюза кінематаграфістаў. За гады творчай дзейнасці ім зняты шэраг дакументальных і мастацкіх фільмаў, што палюбіліся гледачам перш за ўсё за дабрыню і чалавечнасць, якія імкнецца выказаць аўтар. Яго пазіцыя ёсць нават у фільмах, дзе адлюстраваны ваенны час. Рэжысёр лічыць, што тэма вайны будзе актуальна заўсёды, асабліва ў Беларусі: гэта даніна памяці і павагі тым, хто за Радзіму аддаваў жыццё. Яго фільмы выходзяць не толькі на айчынны экран, але і на больш шырокую прастору, і запатрабаваныя на расійскіх тэлеканалах. Што прыемна: праз фільмы Яфрэмава шмат каго з беларускіх артыстаў пазнаюць не толькі на радзіме.

## Прызы на кінафестывалях

• Першыя адзнакі за свае фільмы Аляксандр Яфрэмаў здабыў яшчэ за савецкім часам (да прыкладу, фільм «Родная справа» (1977 г.) стаў лепшым на сучасную тэму на Усесаюзным парадзе маладых кінематаграфістаў).

• Далей сярод фільмаў незалежнай Беларусі яго карціны неаднойчы абіраліся, каб прадставіць краіну на міжнародных кінафестывалях. Напрыклад, добры і шчымлівы фільм «Павадыр» з Валерыяй Арланавай у галоўнай ролі быў адзначаны на Мінскім міжнародным кінафестывалі «Лістапад». Другое месца паводле галасавання глядацкага журы забяспечыла гісторыя сляпой дзяўчыны і маладога чалавека, якога яна кранула трапяткой душой. Гэты ж фільм атрымаў галоўны прыз «Хрустальны бусел» на фестывалі нацыянальнага кіно ў Брэсце «За лепшы мастацкі фільм» (2003 г.).

• Праз год поспех прыйшоў да карціны «Дунечка», у якой распавядаецца гісторыя сталення дзяўчынкі ў тэатральна-багемным асяроддзі. Крыху настальгічны фільм прыйшоў і на «Лістапад», але больш значнай адзнакай стаў прыз на Міжнародным кінафестывалі «Новае кіно. XXI стагоддзе» і ўзнагарода рэжысёру Яфрэмаву «За адкрыццё маладых талентаў» на кінафестывалі «Брыганціна» ў Бярдзянску. Лінію добрага і чалавечага кіно ў творчасці рэжысёра працягвала стужка «Рыфмуецца з любоўю».

• А далей ён павярнуўся да тэмы вайны: шмат каго дзівіў сапраўдны тэлевізійны блокбастар з Дзмітрыем Пяўцовым у галоўнай ролі «Снайпер: зброя адплаты» (2009), які дагэтуль ахвотна ставяць у праграму тэлеканалы. Працягам ваеннай тэмы сталі фільмы «Замах» і «Немец», і яна ўсё яшчэ не закрытая для рэжысёра. Як і тэма серыялаў, якія Аляксандр Яфрэмаў здымае даволі актыўна.



*Кадр з фільма Аляксандра Яфрэмава «Снайпер. Зброя адплаты», якому быў прысуджаны спецыяльны прыз дзясятага тэлекінафоруму «Разам».*

Творчая імпрэза для Аляксандра Васільевіча стала і падарункам, і дыялагічнай пляцоўкай для абмеркавання зробленага ў творчасці за многія гады. Пачаўся вечар святочным віншаваннем ад Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі, якое агучыў міністр культуры Рэспублікі Беларусь Барыс Святлоў. Насамрэч праца рэжысёра высока адзначана на дзяржаўным узроўні неаднойчы: ён мае дыплом аб прысуджэнні прэміі Прэзідэнта Беларусі ў галіне кіно і тэлебачання, з'яўляецца лаўрэатам нацыянальнай прэміі «Тэлеваршыня», узнагароджаны прызам Прэзідэнта Беларусі «За гуманізм і духоўнасць у кіно».

Выбар месца для творчага вечара сёлета асабліва сімвалічны: Тэатр-студыя кінаакцёра налічвае трыццаць пяць гадоў існавання, дваццаць пяць гадоў ёй кіруе Аляксандр Яфрэмаў. На сцэне тэатра рэжысёр паставіў не адзін паспяховы спектакль, сярод якіх трагікамедыя «Міленькі ты мой» з народным артыстам Беларусі Уладзімірам Гасцюхіным, «Айседора. Танец кахання», пастаноўкі «Пігмаліён», «Безыменная зорка», «Лёгкага жыцця ніхто не абяцаў»…

Акцёры тэатра, якія бралі ўдзел у спектаклях і кінафільмах рэжысёра, прысутнічалі на вечары, што стаў сукве́ццем «зорак». Калегі па «цэху» ўспаміналі цікавыя моманты са здымак і тэатральных рэпетыцый, расказвалі пра асаблівасці работы з Аляксандрам Яфрэмавым, пра яго добрае пачуццё гумару.

Напрыклад, драматург Аляксей Дудараў падараваў рэжысёру зборнік сваіх твораў. Магчыма, падарунак — тонкі намёк на супрацоўніцтва? Было б цікава паглядзець на творчы вынік мастацкага тандэму дзвюх знакавых для беларускага кіно асоб.

У праграме творчага вечара гучалі эстрадныя кампазіцыі беларускіх артыстаў: Ядвігі Паплаўскай, Аляксандра Ціхановіча, Анатоля Ярмоленкі, Іны Афанасьевай, Пятра Ялфімава, Аляксея Хлястова ды іншых. Выбар музычнага афармлення вечара быў невыпадковы: усе спевакі маюць дачыненне да творчасці рэжысёра. Некаторыя артысты пісалі песні для яго кінафільмаў, некаторыя здымаліся ў іх. Музычнае гучанне ахутвала тэатральную прастору цеплынёй і ўтульнасцю.

### НОВАЕ КІНО

У жыцці і творчасці Аляксандра Яфрэмава нічога не бывае будзённым. Да любой справы ён падыходзіць сумленна, ствараючы атмасферу прыгажосці і святочнасці. Юбілейны вечар майстра, глыбокі і эмацыянальны, у чарговы раз дапамог адчуць прысутным яго творчую энергію. У тым ліку ў дачыненні да кіно.

Падчас вечара Аляксандр Яфрэмаў прэзентаваў гасцям першую серыю (з чатырох) прэм'ернага серыяла «Любімы горад». Кінакарціна — зборнік шматлікіх гісторый пра танкістаў-чырвонаармейцаў, герояў Вялікай Айчыннай вайны, якія ахвярнасцю і імкненнем перамагчы заслужылі, каб пра іх подзвіг ведалі нашчадкі. Сюжэтная лінія фільма пабудавана, у прыватнасці, на біяграфіі палкоўніка Чырвонай Арміі Зіновія Калабанава, які ўдзельнічаў у шматлікіх баях і ваенных аперацыях. Тры разы палкоўнік быў прадстаўлены да атрымання звання Героя Савецкага Саюза. Перад напісаннем сцэнарыя ўдзельнікі здымачнай каманды Аляксандра Яфрэмава дасканала вывучалі дакументальныя пасведчанні, архіўныя спраўкі і біяграфіі танкістаў. Таму ахарактарызаваць кінакарціну як мастацкую выдумку рэжысёра ніяк нельга. Галоўныя ролі ў серыяле выконваюць расійскі акцёр Аляксей Чадаў і беларуская актрыса Веранiка Пляшкевіч. Першая серыя кінакарціны адначасова і захапіла, і заінтрыгавала. Рэжысёр тонка дэманструе адчуванне трагедыі ў жыцці ваенных танкістаў, узносіць іх на п'едэстал адвагі. Пакуль складана разважаць над вобразнасцю і зместам кінакарціны, але жаданне ўбачыць фільм да канца пасля прагляду першай серыі захавалася.

**Вікторыя АСКЕРА**

Не прамініце

# Шэсць вечароў у Вялікім

Ужо трэці раз — а здаецца, так было заўсёды — нас чакае Міжнародны фестываль «Балетнае лета ў Вялікім». Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Беларусі напрыканцы сезона дае магчымасць прыхільнікам харэаграфіі паглядзець усё, што хацелі, але не паспелі, наталіцца вытанчаным мастацтвам на тэатральныя канікулы. Усе прэм'еры сезона, і нават самая свежая, уключаны ў праграму. Сустрэчы з любімымі артыстамі і запрошанымі гасцямі чакаюць увесь тыдзень з 11 па 18 чэрвеня.

**«Каханне і смерць»** любімага многімі яшчэ з савецкіх часоў азербайджанскага кампазітара Палада Бюльбюль аглы — апошняя прэм'ера беларускага балета — гучнае адкрыццё фестывалю. Два вечары, 11 і 12 чэрвеня, ёсць магчымасць паглядзець прэм'еру балета, які паставіла малады беларускі харэограф Вольга Костэль. Тэма беларуска-азербайджанскіх культурных сувязяў узмацняецца яшчэ і ўдзелам у гэтых дзвюх прэм'ерах дырыжора Эюба Куліева.

**«Маленькі прынц»** беларускага кампазітара Яўгена Глебава — ці не галоўная прэм'ера мінулага сезона. Таму што айчынны твор. Цудоўная музыка. Нездарма балет прыцягнуў увагу харэографаў Расіі, Фінляндыі. Нягледзячы на тое, што музыка створана 35 гадоў таму, яна кранае сэрцы і западае ў свядомасць. Да таго ж у аснове балета — твор Экзюперы. Калі хто яшчэ не пабачыў і не склаў меркавання наконт таго, як справілася з яго пастаноўкай харэограф Аляксандра Ціхамірава, самы час правесці рамантычны вечар 14 чэрвеня ў балеце.

**«Лебядзінае возера»** Пятра Чайкоўскага. Класіка, без якой немагчымае ўяўленне пра балет, яго развіццё і лепшыя ўзоры. Балет, які ідзе даўно і будзе ісці доўга. Але толькі 15 чэрвеня ў партыі Адэты-Адыліі можна пабачыць заслужаную артыстку Расіі Кацярыну Борчанка. Цяпер яна — вядучая балерына Міхайлаўскага тэатра, але нашы аматары балетнага мастацтва яшчэ памятаюць яе саліcткай беларускага балета.

Балет Іржы Кіліяна **«Маленькая смерць»** у афішы тэатра сёлета дапоўніў яго ж **«Шэсць танцаў»**. Два творы, якія мяняюць уяўленне пра балет. Эпоха Гайдна і Моцарта, пышных крыналінаў, шыкоўных парыкоў і бялюткай пудры сышла ў нябыт. Змяніліся і танцы, і адчуванне той музыкі… Сучасны харэограф чэшскага паходжання, які працуе ў Галандыі, пераасэнсоўвае мінулае балета, каб разумець, з чым ісці далей. Але адштурхоўваючыся ад класікі. Таму вечарам 16 чэрвеня разам з кароткімі творамі Кіліяна — харэаграфічныя карціны з балета «Баядэрка» Людвіга Мінкуса.

**Гала-канцэрт** зорак сусветнага балета — падарунак на заканчэнне «Балетнага лета ў Вялікім» — запланаваны на 17 чэрвеня. Упершыню ў Мінску выступяць салісты *English National Ballet* Ксенія Аўсяннік-Канваліна і Джэймс Форбат. Чаканыя госці — салісты Берлінскага дзяржаўнага балета Уладзіслаў Марынаў і Лучыа Відал. Балетная пара з Казахстана: Гаухар Усіну і Жанібек Іманкулаў — вядучыя салісты Дзяржаўнага тэатра оперы і балета «Астана Опера». Балерына Нігяр Ібрагімава прадстаўляе Азербайджанскі дзяржаўны акадэмічны тэатр оперы і балета. І нашы — лепшыя і любімыя. Усе разам яны натхняюць на развагі пра талент.

**Марыя АСІПЕНКА**

Увага: конкурс!

# «Францыск Скарына і сучаснасць»

Напісаць п'есу і прысвяціць яе Францыску Скарыну — гэта цяпер самае актуальнае для беларускага тэатра. Таму што веліч гэтай асобы яшчэ недастаткова ўсвядомленая ў беларускім грамадстве. Каб ліквідаваць прагалы, узнікла ідэя драматургічнага конкурсу, які ладзіцца з нагоды 525-годдзя з дня нараджэння беларускага гуманіста-асветніка эпохі Адраджэння і прымеркаваны да 500-годдзя беларускага кнігадрукавання. Скарына дапамагае і сёння: конкурс п'ес можа дапамагчы ўзбагаціць рэпертуар драматычных тэатраў краіны. Гэтаму спрыяюць розныя

### Намінацыі

За перамогу ў кожнай прадугледжаны ўзнагароды — дыпломамі і грашовымі прэміямі (але, згодна з дзеючым заканадаўствам, з іх праводзіцца ўтрыманне падаткаў, збораў, абавязковага плацяжу).

***Гістарычная п'еса.*** Творы ў жанры гістарычнай драматургіі, якія адлюстроўваюць асноўныя этапы жыцця і творчасці Францыска Скарыны, яго духоўны подзвіг за шматактовыя творы

*Асноўная прэмія — 50 млн руб.*
*Заахвочвальная прэмія — 25 млн руб.*
*Заахвочвальная прэмія — 20 млн руб.*

***Сучасная п'еса.*** Творы пра непарыўную сувязь духоўнай спадчыны Францыска Скарыны з працэсамі сённяшняга нацыянальна-культурнага адраджэння Беларусі, этапамі станаўлення і развіцця беларускай нацыянальнай ідэі

*Асноўная прэмія — 50 млн руб.*
*Заахвочвальная прэмія — 25 млн руб.*
*Заахвочвальная прэмія — 20 млн руб.*

***П'еса па матывах.*** П'есы па матывах твораў беларускай мастацкай літаратуры пра жыццё і творчасць Францыска Скарыны, вялікае гістарычнае значэнне яго духоўнай спадчыны

*Асноўная прэмія — 30 млн руб.*
*Заахвочвальная прэмія — 15 млн руб.*

***Інсцэніроўка.*** Драматургічная інтэрпрэтацыя твораў беларускай мастацкай літаратуры пра Францыска Скарыну

*Асноўная прэмія — 15 млн руб.*

***Сцэнічная ідэя.*** Арыгінальныя літаратурна-драматургічныя творы, якія адпавядаюць тэматыцы конкурсу і патрабуюць дапрацоўкі ў садружнасці «аўтар — тэатр»

*Заахвочвальная прэмія — 10 млн руб.*

### Умовы

Прыём твораў на конкурс праводзіцца з 01 мая па 31 жніўня 2016 года. На працягу месяца пасля завяршэння прыёму твораў журы падводзіць вынікі конкурсу і аб'яўляе іх. Матэрыялы, што дасланы аўтарамі з парушэннем вызначаных тэрмінаў, не разглядаюцца.

У конкурсе могуць браць удзел усе асобы паўналетняга ўзросту незалежна ад іх грамадзянства і месца пражывання.

Дасланыя творы не павінны быць на момант пачатку конкурсу нідзе афіцыйна апублікаванымі, мець пастаноўкі ў тэатрах, з'яўляцца ўдзельнікамі іншых конкурсаў.

На конкурс прымаюцца творы на беларускай і рускай мовах. Аўтары маюць права вылучаць па кожнай намінацыі толькі адзін твор.

У папяровым выглядзе конкурсны матэрыял дасылаецца па пошце. Ён павінен мець не болей за 60 друкаваных (праз адзін інтэрвал) старонак, быць у 2 асобніках.

Матэрыялы, што рыхтуюцца на электронных носьбітах, набіраюцца 14 кеглем, шрыфт *Times New Roman*, павінны мець аб'ём не болей за 60 старонак, друкавацца ў фармаце тэкставага рэдактара *MS Word (.doc)*, адпраўляюцца на *E-mail: cbdrr@yandex.ru* (Цэнтр беларус-кай драматургіі).

У мэтах дасягнення найбольшай аб'ектыўнасці ацэнак усе творы прадстаўляюцца на конкурс без указання прозвішчаў аўтараў. Яны пазначаюцца толькі індывідуальным аўтарскім кодам (дэвізам). Аўтары на дасланых матэрыялах павінны ўказаць таксама намінацыю, у якой твор вылучаецца на конкурс.

Кожны аўтар у дадатак да свайго матэрыялу дасылае на адрас Тэатра беларускай драматургіі (вул. Крапоткіна, 44, 220002, г. Мінск, Рэспубліка Беларусь) асобны паштовы канверт зпазнакай «На конкурс "Францыск Скарына і сучаснасць"».

У ім павінны знаходзіцца звесткі пра індывідуальны код (дэвіз), які аўтар надаў свайму твору, сапраўднае прозвішча аўтара, яго адрас, тэлефон, месца працы. Пры адсутнасці канверта з патрэбнай інфармацыяй дасланыя на конкурс творы не разглядаюцца.

Ускрыццё канвертаў, абнародаванне прозвішчаў аўтараў адбываецца пасля падпісання пратакола аб выніках конкурсу і ў абавязковай прысутнасці старшыні аргкамітэта і членаў журы.

### Журы

Можа пераглядаць колькасць і памеры прэмій у межах канкрэтнай намінацыі, але перагляду не падлягаюць самі назвы намінацый, агульная сума сродкаў, што выдаткавана на кожную з іх.

Журы прымае рашэнне на падставе адкрытага галасавання, простай большасцю галасоў. Пры прыняцці рашэння старшыня і члены журы маюць роўную вагу галасоў. Рашэнне журы не падлягае перагляду з боку заснавальнікаў конкурсу, калі ў рабоце прымала ўдзел не меней як 2/3 членаў ад яго поўнага складу.

### Заснавальнікі

Маюць права на публікацыю п'ес — пераможцаў конкурсу на сайтах Цэнтра беларускай драматургіі, Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, а таксама ў друкаваным зборніку, які можа быць выдадзены па выніках конкурсу.

Сярод заснавальнікаў — Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі, Нацыянальная бібліятэка Беларусі, адкрытае акцыянернае таварыства «Ашчадны банк "Беларусбанк"».

Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі мае права першай пастаноўкі твораў, якія адзначаны прэміямі конкурсу, без выплаты за гэта аднаразовага аўтарскага ўзнагароджання.

Прэм'ера

# «Гавораць пра тэатр як грэкі, а ставяцца як рымляне»



Якаў Натапаў вядомы ў Гомелі і як былы акцёр і рэжысёр Гомельскага абласнога драматычнага тэатра, і ў мінулым як адзін са стваральнікаў і мастацкі кіраўнік калісьці прыватнага Незалежнага тэатра — зараз дзяржаўнага Гомельскага гарадскога маладзёжнага тэатра, у якім ён прадставіў прэм'еру паводле п'есы Аляксандра Валодзіна «З каханымі не расставайцеся».

— Валодзін — выдатны аўтар, і ён як класік існуе ва ўсе часы, — гаворыць Якаў Натапаў. — У нас спектакль па матывах п'есы. І назва яго ўзятая з верша Марыны Цвятаевай: «Дзе адступае каханне, / Там падступае смерць-садоўніца». Гэта і ёсць лейтматыў. П'еса напісана тады, калі сёе-тое нельга было выносіць у соцыум. Бо Каця пасля разводу з Міцем ляжыць у якой бальніцы? У псіхіятрычнай! І па спектаклі так. У чалавека пасля страты каханага ламаецца псіхіка. Гэта псіхатраўма. Валодзін вельмі любіў жанчын, вельмі ім спачуваў і тонка ў іх разбіраўся. І ў мяне гэта даніна стаўлення да жаночага полу, ранімага і трапяткога. У спектаклі занятая практычна ўся трупа тэатра.

**— У XXI стагоддзі былы савецкі тэатр «матэрыялізаваўся». Звыклым стала ўжываць для яго ацэнкі грошы — як прыбытак. Але ці прыстойна гэта?**

— Праблемы тэатральныя сёння шматслаёвыя, але трэба вылучыць два пункты. Што трэба, каб быў добры тэатр? Патрэбныя фінансаванне і талент! Прычым менавіта ў такой паслядоўнасці: спачатку грошы, потым талент. Талент без падтрымкі проста глухне.

**— Вы ставілі ў гарбачоўскія перабудоўныя, у 90-я. І ставіце цяпер. Як бы назвалі сучасны перыяд другога дзесяцігоддзя XXI стагоддзя і ў чым яго адрозненне?**

— Яго адрозненне ў нейкай замкнёнасці. Калі ў савецкі час людзі з Маскоўскага камітэта культуры маглі сказаць у кулуарах: «Дрэнны тэатр стаў маскоўскі Ленком пасля зняцця рэжысёра Эфроса», але яны не маглі гэта сказаць напрамую. Сёння можна казаць усё, што хочаш. І сёння гэты ўнутраны цынізм выліваецца ў абсалютна шчыры знешні. Гэта нагадвае гісторыю, калі грэкі да акцёраў і да тэатра ставіліся вельмі трапятліва, а рымляне імі пагарджалі. Дык вось у наш час гавораць пра тэатр як грэкі, а ставяцца як рымляне. Упаўнаважаныя займацца тэатрам людзі кажуць пра яго важнасць, а непасрэднай дапамогі мала. Калі студэнту тэатральнай ВНУ сказаць, што ён павінен будзе потым у тэатры працаваць дзеля выканання плана па платных паслугах, ён не паверыць. А гэта так.

**— Тэатр усё ж існуе дзеля гледача. Хто ваш глядач?**

— Мой настаўнік Барыс Вторaў вучыў мяне рабіць спектакль так, каб на 95 працэнтаў ён быў камедыяй і толькі на 5 — трагедыяй. Каб людзі шмат смяяліся, але плакалі ў канцы. Таму мой глядач — гэта глядач з добрым пачуццём гумару.

**Алена ПАРФІЯНОВІЧ**

# Што абяцае дзівоснае гучанне?

Студэнтка пісала курсавую. Выбірала тэму. «…*Дарыян Уімпал мала ведаў пра прыродазнаўчыя навукі, акрамя таго, што вычытваў з даведніка…*» — цытата як Піліп з канапель выскачыла з толькі што прачытанай навамоднай кніжкі і засведчыла няпэўны стан і курсавой, і студэнткі…

З усіх тэм, прапанаваных для курсавых, вока выхапіла тую, дзе фігуравала імя кампазітара даволі вядомага, але даўно пазбаўленага ўвагі айчынных выканаўцаў. Круглыя даты кампазітара не грымелі літаўрамі, а ціха мінуліся. Рукапісы ў архівах нібы знямелі. Канцэртныя залы ад цішыні несыгранай партытуры аглухлі. Засталіся згадкі ў энцыклапедыях і адзіная рускамоўная кніга пра жыццё і творчасць. «*За гэты тыдзень я праспяваў табе чатырнаццаць з паловай песень, а ты крадзеш сабак…*» — мільганула яшчэ адна цытата з моднай кніжкі…

***

…Імя прывабіла — Мікалай Чуркін. Быццам і не ахутанае таямнічасцю, і не забароненае. Больш за тое, фестываль, які штогод ладзіцца ў Мсціславе, носіць ягонае імя, як і мастацкая школа горада. Але кантэкст сучаснага музычнага жыцця творчасць кампазітара як фігуранта беларускай музычнай класікі не змяшчае. «*Глупства сцвярджаць, што цяжкасцей няма…*» — зашамацела наступная цытата…

Кожны энцыклапедычны даведнік пераканаўча даводзіць, што М. Чуркін шмат у чым быў першым. У беларускай савецкай музыцы. Адзін з першых прафесійных кампазітараў Беларусі, заснавальнік нацыянальнага жанравага сімфанізму, аўтар першай оперы на рэвалюцыйны сюжэт (дзе ж падзенешся ад гэтай рэвалюцыі ў 1922 годзе!), адзін з першых стваральнікаў беларускай музыкі для дзяцей. Першая дзіцячая радыёопера «Рукавічка» з'явілася ў 1940 годзе. Опера для дзяцей! Гэта і па сённяшнім часе рэдкасць. У рэпертуарнай афішы якога тэатра сёння значыцца беларуская (да таго ж беларускамоўная!) дзіцячая опера? А тады, як толькі аднавілася пасляваеннае дыханне краіны, «Рукавічка» ў перакладзе Эдзі Агняцвет была выканана салістамі Беларускага радыё ў 1948 годзе, а за дырыжорскім пультам стаяла — па сутнасці, рабіла музыку — Тацяна Каламійцава. «*…Вы можаце есці і піць усё, што адпавядае вашай стадыі развіцця, абы вы імкнуліся наперад, да чысціні…*» — зноў бліснула цытатай кніжка.

…Кампазітару выпаў доўгі шлях даўжынёю ў 95 год. Няпростае маленства і пакручастае юнацтва. Пільнае ўгляданне ў жыццё. Рашучы выбар паміж жывапісам (скончаны курс Акадэміі мастацтваў у Пецярбургу) і музыкай. Музычныя здольнасці — самыя разнастайныя — спрачаліся і стваралі канкурэнцыю паміж сабой. Што выбраць: настаўнічаць, выкладаць, кіраваць аркестрам, хорам, самому станавіцца спеваком? Цяжка ім не стаць пасля знаёмства і прафесійнага супадзення з Ф. Шаляпіным. Цяжка не пачаць пісаць музыку, калі твае студэнцкія кампазітарскія спробы слухае А. Арэнскі, а фугі на экзамене грае П. Чайкоўскі. Калі ты, урэшце, праходзіш курс кампазіцыі ў вучня М. Рымскага-Корсакава — М. Іпалітава-Іванава. А як не стаць збіральнікам народных песень, калі занатаваныя ў захапленні ад гучання 12 грузінскіх песень настолькі супадаюць з арыгіналам, што апынаюцца ў дарожнай папцы А. Рубінштэйна. Ці, можа, заняцца музычнай тэорыяй пасля ўдала напісаных метадычных работ «Дапаможнік для класнага спявання» і «Нотная азбука»?

Пытанні не вычэрпваліся. Множыліся і з пераездам у Коўна, у Вільню. Множылася калекцыя эскізаў сялянскіх двароў гарадскога наваколля: прылады побыту, узоры народнага адзення. Вільня сустрэла нечаканым здзіўленнем: беларуская мова. Праз радасць, праз лёгкасць стасункаў са студэнцкім асяроддзем Віленскага настаўніцкага інстытута здзіўленне сталася адкрыццём і новым захапленнем кампазітара.

***

Не менш моцнае ўражанне — жніўныя песні і песні вясельнага абраду. Як вынік — 53 узоры беларускага меласу ў сёмым выпуску **«Беларускага зборніка» Е. Раманава.** Незнішчальныя нематэрыяльныя каштоўнасці. Як думка. Як эмоцыя. Падмурак менталітэту.

Замкнёныя на ўсе замкі душы беларусаў, асцярожныя і недаверлівыя, не здолелі схаваць сваё хараство ў песні. Песню беларусы зберaглі. Пакінулі ў карыстанне самае непрыдатнае для выжывання: не пракорміць, не захіне. «*Не здабывайце скарбаў зямных…* — не з навамоднай кніжкі гэтым разам цытата. — *Здабывайце мілату Духа Святога…*»

Народныя песні М. Чуркіным збіраліся паўсюдна. Дзе выпадала жыць. Сшыткі з запісамі змяшчалі па 30 азербайджанскіх, па 28 армянскіх народных мелодый, а таксама грузінскія, таджыкскія… Але беларускіх запісаў (падлічана!) — 3000. Зайздроснае імкненне збіраць. Такое рэдкае пастаянства: вясной-зімой — пісьмовы стол з партытурамі, летам-восенню — няспынныя пераходы з вёскі ў вёску пад хмарным і сонечным небам з торбай занатаваных, свету невядомых, песень. Імі М. Чуркін будзе шчодра дзяліцца, нібы садоўнік спелымі яблыкамі са свайго саду. Песня, падораная М. Аладаву, загучыць у ягонай 2-й сімфоніі, прапанаваная В. Залатарову — у балеце «Князь-возера», Я. Цікоцкаму — у оперы «Дзяўчына з Палесся»…

Яны былі шмат у чым першымі. І М. Аладаў, і Я. Цікоцкі, і У. Тэраўскі, і А.Туранкоў… Яны сталі на пачатку дарогі, дзе вынік не пралічваўся. Нават не меў абрыс. Былі пытанні і цьмяныя абрысы будучыні. Дарога абяцала толькі дарогу. Што імі рухала? Магутнае поле, створанае Янкам Купалам, Якубам Коласам, Браніславам Тарашкевічам, Рыгорам Шырмам? Лёс Максіма Багдановіча, стваральніка новых жанраў у беларускай паэзіі, генія, што без пары сышоў? Чыё жыццё — дыханне. Аднойчы, набраўшы паветра ў свае слабыя грудзі, ён адолеў шлях, здзейсніў, што задумаў, пакінуў пасля сябе не толькі квітнеючы яблыневы цвет новабеларускай паэзіі, але і стракаты россып у будучыню пуцявін-сцежак, па якіх можна крочыць, захінуўшыся бязмежным замілаваннем зямлёй «па-над белым пухам вішняў…»



*Мікалай Чуркін.*

***

У тыя часы дзённікаў не заводзілі. Час татальнага недаверу і асабістай перасцярогі. Нічога, што магло б нашкодзіць. Музыка — раскоша. Музыка — месца для размовы з самім сабой і светам. Месца сілы і шчырасці.

1925 год знакавы для кампазітара Мікалая Чуркіна. Знакавы і для гісторыі беларускай музыкі. Год стварэння сімфаніеты «Беларускія малюнкі» — нараджэнне нацыянальнага жанравага сімфанізму. Кампазітару — пяцьдзясят чатыры. Чысціня класічных форм і традыцый. Празрыстасць Моцарта і Керубіні. І — безліч узораў беларускага фальклору. У дасканалыя рыштаванні класічнай формы ўпісаныя спевы беларускай зямлі. Так некалі рабіў М. Глінка, зачараваны з дзяцінства аркестрам свайго дзядзькі ў Смаленскай губерні, аматара штотыднёва ладзіць хатнія канцэрты з твораў Гайдна, Моцарта, Бетховена, Керубіні.

Хто альбо што было такім пераканаўчым для творчасці і непазбежным для сумлення Мікалая Чуркіна? Славутыя педагагічныя традыцыі рускай кампазітарскай школы? Укаранёная яшчэ Глінкам незваротная сувязь з народнай творчасцю, якую пазней Стасаў узнімаў як найвышэйшую каштоўнасць? Пастановы і дэкрэты партыі з «рэкамендацыямі», як пісаць музыку?

Што? Як? Чаму?..

***

А дзе б тое паслухаць? Дзе паслухаць не варыянт запісу невядома калі запісаны і невядома якой тэхнічнай якасці, а жывое, сучаснае гучанне той музыкі? «*Надышла цішыня,* — зноў загаварыла модная кніжка. — *Эльф неразважлівасці наведаў на імгненне Патрыка Дэлроя*»… — «…Ды не толькі для курсавой! — пераконвала кніжнага Эльфа студэнтка. — Для сябе! У жывым выкананні! Мінула столькі часу. Час — таксама аўтар. Хто там з мастакоў, аднойчы адвярнуўшы недапісанае палатно да сцяны, праз некаторы час, вярнуўшыся да карціны, убачыў у ёй перамены, убачыў, што карціна сама даспела, адвернутая да сцяны… А музыка? Рукапісы не толькі не гараць. Рукапісы мяняюцца, а творы не згасаюць. Яны ўспыхваюць кожны раз новым агнём у вогненных руках палымянага музыканта.

Сімфоніі Бетховена сёння гучаць інакш, чым пры жыцці аўтара. Акустычныя ўмовы іншыя. Якасць інструментаў іншая, а значыць, і якасць гучання. Каларыстыка, тэмброўка, дынаміка, «тэмпературныя» перапады кантрастаў. Час мяняе ўсё: ад аркестравага мыслення да асобы за дырыжорскім пультам. Дырыжор — стваральнік гучання. (Бог, без сумнення, дырыжыраваў на працягу шасці дзён Стварэння, гуляў нябачнай матэрыяй і, у межах абранага такта, расстаўляў акцэнты ў задуманых прапорцыях.) А сёння ўсё, што паспеў назапасіць свет з моманту з'яўлення, збіраецца ў адной асобе, якая, рызыкуючы, таксама стварае «матэрыю» — не столькі дзеля новых форм успрымання, колькі дзеля новай інтэнсіўнасці гучання. У такіх варунках «знежывелы аб'ект будзе здавацца жывым» (М. Дворжак).

Як бы гэтыя «аб'екты» загучалі сёння ў вялікай канцэртнай зале, напрыклад? Як бы гучала партытура сімфаніеты ў другой рэдакцыі, зробленай менавіта для вялікага сімфанічнага аркестра? Мастацкая форма — гэта ўвасабленне духоўнага стаўлення да наваколля, адначасна развіццё яе (зноў Багдановіч Максім!), а развіццё рэальнасці — найперш — новае яе асэнсаванне. І — зноў жа — стварэнне свету. Наваколля. М. Чуркін не мог пра гэта не ведаць. Ведаў. Усведамляў свой прафесійны спектр магчымасцей, адрозны ад магчымасцей аднадумцаў, таму па-свойму вырашаў агульную мастацкую задачу, агульны запыт часу. Безумоўна, ён азіраўся на папярэднікаў, на іх дасягненні. Традыцыі забяспечвалі трываласць. Прынамсі, як і П. Брэйгель у свой час, ствараючы палатно «Сялянскі танец», не мог не ўлічыць убачаных «Сялян, якія танчаць» А. Дзюрэра, бо гэта было настолькі прывабна і чароўна, што запатрабавала працягу. П. Брэйгель не абмяжоўваўся асобнымі рысамі народных сцэн. Ён выбудаваў (першым у жывапісе!) духоўную падзею свайго апавядання на трывіяльным абазначэнні «народнай душы» — па сутнасці, на цытатах.

**На сваёй струне**



Ларыса СІМАКОВІЧ, кампазітар

На цытатах, на характэрных кодах духоўнага жыцця беларусаў, на выкарыстанні 15 беларускіх народных песень пабудаваў сваю сімфаніету М. Чуркін — адметны «пейзажны жывапіс» ХХ стагоддзя. Успрыманне рэчаіснасці таго часу, мудрасць таго часу, высакародства і глыбіня таго часу.

***

Срэбныя флейты, цягучыя фаготы, ашаламляльная каларыстыка шматструнных!.. Спектр гучання мяняецца ад самага мізэрнага зрушэння параметраў тэмпу, дынамічнай «амплітуды», ад «навядзення» нябачных лігмастоў, што злучаюць адну музычную тэму з наступнай. Гэта тое, што сёння мае абагульняльны сэнс, тэрмін, вынайдзены С. Губайдулінай: *рэ*-лігія — існаванне нябачнай, але трывалай сувязі усяго з усім. Губайдулінская *рэ*-лігія, вынаходніцтвы К. Штокгаўзэна і праблематычнае суіснаванне супярэчнасцей Булеза. Гэта інструментарый сённяшняга выканальніцкага мастацтва. Кантэкст, у якім жыве музычны свет. Кантэкст з надзейнымі крокамі, дзе жыць-існаваць зручней, цікавей і святлей. Дзе хочацца часцей бываць, гучаць, трансліраваць, узаемадзейнічаць. Па гэта і прыходзіць публіка ў канцэртныя залы, прагная да сапраўднага.

Гэта абяцае дзівоснае гучанне. 15 беларускіх песень-мелодый у новых метафізічных стасунках. 15 новых *рэ*-лігій, утвораных сувязей-перапляценняў, узаемазалежнасцяў. Багацце кантрасных супрацьпастаўленняў, музычных сітуацый, суіснаванне музычных тэм з іх вонкавай і схаванай адпаведнасцю. Тое, што натуральна існуе па законах архаічнага беларускага этнасу, паўстала новым збудаваннем — манументальным сінтэзам.

Гэта абяцае дзівоснае гучанне. А дзе пачуць? А калі? Якую дзеля гэтага стварыць запазычанасць, якія хмары расхінуць і які дождж нажадаць?

У музыцы Мікалая Чуркіна — сваё жыццё. Свае лініі на далоні... Прыцішаны пачатак струнных, дзе звычнае трэмала ў новых умовах мяняе квантавую прыроду музыкі (!). Першае лаканічнае ўзнікненне тэмы. Музыка захоча гучаць па-іншаму, не так, як у далёкім 1936-м, бо паміж той лігай і сённяшнім днём у гістарычнай крыві краіны, у лімфе, костках і дапушчаны Чарнобыль, і знос Нямігі, і знішчэнне першага беларускага тэатра, і такое цяжкае нараджэнне незалежнасці… «*Калі б Піліп Айвівуд быў паэтам, а не эстэтам, ён ведаў бы, што мінулае Англіі і яе народ размаўляюць з ім з цемры*», — вынырнула яшчэ адна цытата…

Дзівоснае гучанне. Ты дзе? «*…Яна пабегла да вежы, імкнучыся да адзіноты…*» — зашамацела на развітанне апошняя цытата навамоднай кніжкі.

# Празрыстасць часоў

## Айчыннае мастацкае шкло ў выставачным праекце «Шклавата»

Развіццё індустрыі мастацкага шкла ў Беларусі шчыльна звязана з заводам «Нёман», што дзейнічае ў Бярозаўцы (Гродзенская вобласць) з 1883 года. Прадпрыемства заўсёды характарызавалася як высокатэхналагічнае. Адыгрывала вялікую ролю ў творчым жыцці айчынных дзеячаў мастацтва, таму што акрамя ўтылітарных прадметаў прадстаўляла вырабы мастацтва са шкла.

Экспазіцыя «Шклавата» ў Нацыянальным цэнтры сучасных мастацтваў (пр-т Незалежнасці, 47) не проста прасторавая інсталяцыя шкляных арт-аб'ектаў. Гэта прадуманы праект, у якім мастацкае шкло прадстаўлена з боку мінулага, сённяшняга і будучыні. Адзін з куратараў выстаўкі, скульптар Павел Вайніцкі, расказаў карэспандэнту «ЛіМа» пра карысць шкла як зручнага мастацкага матэрыялу і падзяліўся асноўнай задумай і канцэпцыяй экспазіцыі:

— Шкло, безумоўна, адрозніваецца ад іншых мастацкіх матэрыялаў празрыстасцю, далікатнасцю. Яно нібыта ёсць і нібыта няма. Шкло існуе на мяжы светаў — прадметнага і ідэальнага. Яшчэ ў студэнцтве я пабываў на шклозаводзе і пачаў працаваць з гэтым матэрыялам. Увогуле сёння часцей за ўсё працую са шклом. Па-першае, з ім працаваць лягчэй, бо шкло само падказвае кірунак твора, а па-другое, не патрабуе столькі высілкаў, як іншыя матэрыялы. Ды і ўвогуле, шкло таннейшае. Выстаўка мае назву «Шклавата», і на гэтым усё завязана. У Беларусі ёсць легендарны шклозавод «Нёман», які мы ведаем па шэдэўрах, зробленых айчыннымі мастакамі. Прыязджалі і творчыя прадстаўнікі розных рэспублік. Наш завод гучаў на ўвесь Савецкі Саюз. Але ў час перабудовы, пасля змены курсу з сацыялізму на капіталізм, вытворчасці, якія калісьці былі тварам краіны, перасталі прыносіць прыбытак. Сёння «Нёман», намагаючыся выжыць, пераходзіць на вытворчасць шклаваты замест мастацкага шкла. Гэта сумна, бо з трох велізарных цэхаў два перапрафіляваныя да вырабу менавіта гэтага прадукту. Многія мастакі занепакоеныя, што ў выніку чакае айчыннае мастацкае шкло. Таму выстаўка арганізавана з мэтай агучыць наспелую, балючую праблему. У нашай экспазіцыі прадстаўлена тая самая шклавата, якая мае назву «Нёман плюс», ёсць відэаінтэрв'ю з мастакамі, якія распавядаюць пра бліскучае мінулае «Нёмана», пра магчымасці і моц прадпрыемства, пра праекты, якія рэалізоўваліся. Трэці складнік выстаўкі — працы мастакоў іншага пакалення. Яны ўжо своеасаблівы «Нёман мінус», бо выкарыстоўваюць іншыя тэхналогіі, іншыя спосабы данесці аўтарскае пасланне да гледача.



З адкрыцця выстаўкі.

Прадстаўленыя ў экспазіцыі работы маладых аўтараў сапраўды цікавыя. Розных памераў, уражваюць глыбінёй і змястоўнасцю вобразных рашэнняў. Кожны аўтар падышоў да работы артыстычна і эмацыянальна. Ёсць, напрыклад, рэчы, якія выдатна глядзеліся б на паліцах, ёсць аб'екты, падрыхтаваныя спецыяльна для ўпрыгожвання падлогі. Але ёсць і такія, што дзіву даешся: наколькі ідэальна выраблены кожны штрых. Да такіх можна аднесці своеасаблівыя шкляныя партрэты альбо карабель, зроблены з кавалачкаў шкла.

Выставачны праект складаюць як работы ўжо знакамітых айчынных аўтараў, так і дыпломныя, курсавыя працы студэнтаў Акадэміі мастацтваў. Студэнты актыўна сумяшчаюць шкло з іншымі матэрыяламі: люстра, камяні, прыродныя мінералы, сучасныя тэхналогіі. Напрыклад, курсавая праца студэнткі Яны Сычовай «Дотык месяца» ўяўляе сумяшчэнне крышталя са святлодыёднай падсветкай. А мастачка Ганна Зарубіна — прыхільніца празрыстасці: можа выкарыстоўваць шкло любога колеру, але абавязкова чыстае: сюжэт бачыш як праз акно. Ёсць і прыхільнікі ф'юзінгу — дастаткова новай тэхналогіі вытворчасці вітражоў.



Ганна Зарубіна «Хто я?», 2015 г.

Тут важныя колеравае спалучэнне і рэльефнасць шкла.

Увогуле выстаўка «Шклавата» — удалая магчымасць прасачыць за гісторыяй, зразумець асновы развіцця вытворчасці мастацкага шкла ў мінулыя часы і адчуць змяненні ў мастацкім напрамку сёння. Вельмі шкада, што тэндэнцыі, якія калісьці былі выпрацаваны беларускімі дзеячамі мастацтва на «Нёмане», сёння губляюцца ў выніку становішча прадпрыемства, але, з іншага боку, творчая моладзь не здае пазіцый і прыдумляе новыя канцэпцыі, шукае іншыя шляхі апрацоўкі і тэхнікі. Менавіта таму ёсць нагода спадзявацца на развіццё айчыннага мастацкага шкла, магчыма, у новым напрамку.

**Вікторыя АСКЕРА,**
**фота аўтара**

## *Культурны ракурс*

У гарадку Косава, што на Івацэвіччыне, знаходзіцца ўнікальны помнік неагатычнай архітэктуры XIX стагоддзя. За казачны вобраз і раскошу палац графаў Пуслоўскіх (Косаўскі замак) называлі «рыцарскай мрояй».



Косаўскі палац па-свойму ўнікальны. Будынак складаецца з цэнтральнага двухпавярховага корпуса і двух бакавых крылаў, а дзякуючы гранёным зубчастым вежам яго часта называюць мініяцюрным замкам. Кожная вежа сімвалізавала месяц года, пры гэтым чатыры цэнтральныя — у гонар урадлівых мая, чэрвеня, ліпеня і жніўня — самыя высокія. Палац атачаў выдатны парк, дзе раслі больш за 150 відаў экзатычных раслін, а для асабліва рэдкіх асобнікаў была ўладкаваная аранжарэя. Парк маляўніча спускаўся да трох штучных азёраў і сядзібы Касцюшкі.

З палацам у Косава звязана шмат паданняў. Мясцовыя жыхары расказвалі, што гаспадары трымалі для аховы льва, якога ноччу выпускалі блукаць па калідорах. Успамінаюць і «музычную» асаблівасць палаца. Калі на другім паверсе ўсходняга боку, стаўшы на падаконнік, нехта гучна пляскаў у ладкі, скляпенні будынка пачыналі выдаваць меладычныя гукі.

Нягледзячы на разбурэнні, застылая ў камені прыгажосць Косаўскага замка па-ранейшаму прыцягвае і ўражвае падарожнікаў.

**Марына КАЛІНОЎСКАЯ**

*Каб узяць удзел у конкурсе, дасылайце свае фотаздымкі на электронны адрас* ***lim_new@mail.ru*** *з пазнакай* ***«Культурны ракурс»*** *— лепшыя будуць апублікаваныя на старонках газеты!*

*Галоўныя ўмовы творчага спаборніцтва: цікава і арыгінальна сфатаграфаваць помнік гісторыі і культуры Беларусі (магчыма, на тэрыторыі іншай краіны) ці сфатаграфавацца каля яго. Прымаюцца і работы, зробленыя ў жанры сэлфі.*

*Рэдакцыя чакае не толькі ўдалага фота, але і лаканічнага, пераканаўчага тлумачэння, чаму менавіта гэты помнік падаецца вам самым значным. А таксама канкрэтных звестак пра аўтара здымка (імя, прозвішча, месца працы альбо вучобы, кантактныя дадзеныя). Аўтар можа даслаць некалькі фота. Пры адборы работ будуць улічвацца не толькі мастацкія якасці здымка, але і яго канцэпцыя, пераканаўчасць тэксту-тлумачэння.*

*Чакаем вашых фота на працягу ўсяго 2016 года і разлічваем на нязменную цікавасць да беларускай культуры!*

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**

**Заснавальнікі:**
**Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь,**
**грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі»,**
**рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»**

**Галоўны рэдактар**
**Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК**



**Адрас рэдакцыі:**
**Юрыдычны адрас:**
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

**Адрас для карэспандэнцыі:**
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.main.lim.by

**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

**Падпісныя індэксы:**
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар Аляксандр Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
Г. Я. Палякова

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк 9.06.2016 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1752.

Кошт у розніцу — 4100 рублёў

**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 2266

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



ISSN 0024-4686